Віктар Гардзей

# МЕЖАНЬ

Кніга лірыкі



Мінск
"Беларускі кнігазбор"
1999

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи)
Г20

**Гардзей В.**
Г 20 Межань. Кніга лірыкі. — Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999 — 144 с.
ISBN 985-6318-48-3

У паэтычным зборніку "Межань", які ствараўся на самай высокай ноце хвалявання і ўзрушэння чалавечага духу, моцна адчуваецца "сум імпрэсій неўтаймоўных", "горыч сімвалаў сляпых". Але суб'ектыўнага погляду на жыццё тут няма, што цалкам ламае рамкі традыцыйных уяўленняў пра літаратурныя плыні. Мімалётныя ўражанні і настрой паэта перапоўнены смуткам і болем, выкліканымі як суровай рэчаіснасцю, так і жорсткімі абставінамі ўласнага лёсу. У пэўным сэнсе назва кнігі таксама сімвалічная, бо межань у прыродзе — гэта гарачы летні час, калі паўсюль на рэках і ў азёрах назіраецца працяглае сезоннае стаянне нізкіх узроўняў вады.

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи)

**ISBN 985-6318-48-3**

## СНЕГАПАД

Снег пайшоў, а хто снегу не рад!
Стане менш і гаркоты, і скрухі.
Варта добра пачаць снегапад –
Будуць выць да вясны завірухі.

Для таго, хто зусім занямог,
Снег ідзе, і бялеюць разлогі.
Чысціню вось такую даў Бог –
Трэба выцерці брудныя ногі.

Як пялёсткі сняжынак таптаць
У квітнеючым садзе зімовым?
Снег кладзецца на поле, на гаць –
Будзе час варажбе і замовам.

Хай наскрозь люты вецер прадзьме
І мароз пашчыпае калядны,
Пабягу я насустрач зіме –
У яе снегапад неаглядны.

## ЗІМОВАЮ ДАРОГАЙ

Брыду я зноў дарогай палявою,
Каб заблудзіцца ў гурбах назнарок,
І дуб стары хітае галавою,
Але чаму ў яго вачах папрок?

Стаяць наўсцяж бярозкі, бы ў маленні,
Сярод хрустальна-ледзяных палат.

Прайшлі пад гэтым дубам пакаленні –
Даўно няма ні іх садоў, ні хат.

Не трэба мне дарэмнага папрогу –
Я сам свае замольваю грахі.
Здаецца, не гляджу на свет звысоку,
Ды ён такі халодны і глухі.

Відаць, і мне пад небам анічога
Не зразумець да белай галавы.
Вось і заве зімовая дарога,
І дуб глядзіць насмешліва-сівы.

## УСПАМІН З МАЛЕНСТВА

Ну і зімы былі! Ну і зімы!
Маразы, аж трашчалі ствалы.
Да Каляд снегавыя кілімы
Засцілалі палі, як сталы.

Рэдка ў небе пакажацца просінь.
На марозе – яно здаравей!
Залатая хавалася восень
У кладоўках ад лютых завей.

На канькі! І на лыжы! На санкі!
Загулялася ў гурбах дзятва.
І рабіны бягуць, як цыганкі,
І пра хлеб не баліць галава.

Вёска стыне ў бядоце нязжытай,
І не дужа харчоў на стале,

Але пахла ў ваколіцах жыта –
Свіран плыў у марознай імгле!

У лясах, дзе не стаў ашуканцам,
Тыя зімы запомняцца мне
І акрайцам сухім, і румянцам,
І лыжнёй, што прапала ў вясне.

***

Вось зноўку скончыцца зіма,
Ды я забыць яе не смею.
Нічога смешнага няма:
Люблю марозную завею!

Пачаўшы бег па цаліку
У нейкім палявым надзеле,
За ноч на белую муку
Мой боль завея перамеле.

Шкада, аднак, што ў цёмны кут
Цяпер яна прыходзіць рэдка –
Саўдзельніца начных пакут
І змушаных бяссоніц сведка.

Такі я ёсць – люблю зіму!
Гляджу ў акне на ціш нямую:
Няма завеі, і таму
Па ёй, узвіхранай, сумую.

***

І пайду, і пагукаю
Першы дзень маёй вясны.
Пагукаю каля гаю –
Чую перазоў лясны.

Пагукаю ля рачулкі –
Чую гоман ручаёў.
Пагукаю ў полі гулкім –
Чую пошум каласоў.

І грахоў тут, і агрэхаў
Шмат маіх, куды ні кінь.
Я гукаю, покуль рэха
Не разбудзіць далячынь.

Там, за сцюжамі, нічога,
Што суцешыла б душу.
У сябе, у вас, у Бога
Даравання папрашу.

Чуюць выселкі і сёлы,
Чуюць сёння і даўно.
Я гукаю дзень вясёлы,
Ды і плачу заадно.

***

На звон хрустальны ледзяшоў празрыстых
Ляцяць гракі, бо добра прыпякло.

І хутка зноў Ярыла трактарыстых
На ворыва пакліча за сяло.

І сам ён зранку ў наваколлях вёскі
Праскача на сярэбраным кані.
Хачу вясны, і чую голас боскі,
Ды паспрабуй Ярылу дагані!

Араць і сеяць я, на жаль, не ўмею
І піць не ўмею горкае віно.
Ды прыкра ўжо спакусліваму змею:
Гляджу ў акно, як не глядзеў даўно.

Там нейкі зрух, і прэч хвіліне шэрай,
І адыходнай, братка, не пішы:
Са звонамі разбітага фужэра
Цурчаць і хропаюць з карнізаў ледзяшы.

## ПРАЛЕСКІ

Пакідае край палескі
Лютая зіма,
Ды шкада мне вас, пралескі,
Бо цяпла няма.

Нават па старому стылю
Хлусіць каляндар.
Хоць бы глянула на хвілю
Сонейка з-за хмар.

Не крычы, груган, у соснах,

Вочы не мазоль.
Без цябе на сэрцы млосна –
Непагадзь і золь.

Жаўрукам над сухадолам
Празвінець пара.
Загрыміць у лесе голым –
Не чакай дабра.

З крыгаломам спадзяванні
Панясла вада.
Мне шкада пралесак ранніх
І сябе шкада.

Хоць і з цэзіем, а мілы
Мне бацькоўскі край.
Дай жа, Божа, трошкі сілы,
Ды і шчасця дай!

Не хвалю сваё балота,
Бы кулік, таму,
Што назад вось гэтай слотай
Хочацца ў зіму.

Там журбу і боль палескі
Сцюжы замялі,
Там пяшчотныя пралескі
Спяць яшчэ ў зямлі.

***

Разумею: я патрэбен
Полю, шэраму ў вясне.
Момант ісціны, што ў хлебе,
Па жыцці вядзе мяне.

Не сагрэлася б пад снегам
Без майго дыхання рунь.
Нахапілася адлега,
Ручаі бягуць угрунь.

Вось і дождж, і гром з-за гаю –
Можна жыць на поўны ўздых.
Словы праўды я шукаю
На палетках яравых.

За жыццё, што не пражыта,
За цяпло, што дзень прынёс,
Будзе заўтрашняе жыта
Хвалявацца ўскрай нябёс.

***

Займаецца дзень вясёлы,
Ды вее патоляй нейкай.
Разбуджаны лес і долы,
Але не маёй жалейкай.

Гракі прыляцелі цугам
І чуцен busліны клёкат,

І сейбіт выходзіць з плугам,
Але ад мяне далёка.

Трывожна глядзіш: якая
Пагода бярэцца з рання.
Насення ралля чакае,
Але без майго казання.

Няхай не наробяць глуму
Спякота, дажджы, грымоты.
І полю хапае суму,
Але не маёй гаркоты.

***

Вабяць яблыні і слівы
    Пчол рабочых,
І ля вішань гул зычлівы
    Аж да ночы.

Хорам заспявалі маю
    Птушкі з бору.
Пчолам важкага жадаю
    Медазбору.

Вёску гром і лівень хлёсткі
    Не мінулі –
Завірухаю пялёсткі
    Шуганулі!

Зажурыўся я ў нягоду,
    Выйшаў з хаты:

Пэўна, будзе прысмак мёду
Гаркаваты.

Пчолы кружаць самавіта
Перад летам.
Вёска да краёў заліта
Белым цветам.

***

Зялёны мой, лісток на белым клёне,
У майскі дзень ты выпырхнуў ціхутка.
І будзе сонца, і яшчэ зялёней
Табе свяціцца на галінцы гнуткай.

Тут дзесьці я хаджу непадалёку,
Забыць спрабую горычы і беды.
І будзе спёка, і аднойчы ў спёку
На клён палезуць злыя лістаеды.

На схіле жніўня, як зашэрхнуць травы,
Зямля яснее ў характве някідкім.
І будзе золь, і ты, лісток дзіравы,
Пачнеш марнець, жаўцець увачавідкі.

Стаю пад клёнам, як пад небам зорным,
І даль навокал у трымценні леным,
І прыйдзе міг, і ты, мой непаўторны,
Зляціш на дол, і скончыцца ўсё тленам.

***

Весялей і лягчэй, і суцішней –
Штось жывое чуваць ля вакон.
То душа, прытварыўшыся вішняй,
Мой трывожны падсвечвае сон.

Думаў, знікла – не вернеш бяглянку,
І тады стане млосна зусім,
Але бачу, прачнуўшыся ўранку,
Як святлее ў пакоі маім.

Крыўды я на яе не трымаю,
Што блукае начамі адна,
Хіба толькі падзякую маю,
Ды і вып'ю свой кубак да дна.

Адзічэламу грэшніку блага
Між магіл, на прыціхлай вярсце,
І такая няўтольная смага
Тут, у змроку, дзе вішня цвіце.

***

Даўно зарніцы на пачатку мая
Не крэслілі далёкі небасхіл,
І ў бляску іх жуда гняце нямая,
І бачны знак якіхсьці тайных сіл.

За тры гады ў стагоддзя на зыходзе
Магчымы буры, голад, мор, аднак

Прароцтвы Настардамуса ў народзе
Не ведаюць, і, можа, лепей так.

Нязвыкла ўсё ж – зарніцы ды без грому.
Лінуў бы дождж – прырода ажыла б.
Мне ў позні час не хочацца дадому:
Пад бляск зарніц гучней канцэрты ў жаб.

Па тым, што вечар дорыць, прыкмячаю:
Быць цеплыні, і мне надзей стае,
Бо і душа, замёрзлая з адчаю,
Слязінкамі на вейках растае.

***

Завядае бэзавая квецень –
Не чапай, бо пальцы апячэ,
І ў вачах здзіўлёных праплыве цень
Той вясны, што помніцца яшчэ.

Там рунела жыта, і даліны
Лотаццю жаўцелі пад імглой,
Ды ў вясёлым клёкаце бусліным
Чуўся першы сум і неспакой.

Сёння ж не пацешыць і застолле
У сяброў, суседзяў ці радні,
Бо ў пялёстках бэзу, як вуголле,
З той вясны мае курацца дні.

***

Між яблынь, дзе ў цішы начной
Плыве ад кары водар горкі,
Як вязень праз краты, з журбой
Гляджу на далёкія зоркі.

Я іх пазнаю, і дарма
У зорак прасіць суцяшэння.
Тут хата стаяла – няма.
Тут морак і быль запусцення.

Пайшлі і ратай, і сявец,
Прапалі іх клуні і гумны.
Звычайны ў сялібаў канец,
Хоць надта балючы і сумны.

Тут зоркам свяціць давідна,
І ціша – што ў бочцы бяздоннай,
Ды ўсё ж на пралёт кажана
Уздрыгваюць яблыні сонна.

***

Каб не пабег я рана-раным
За вёску і яшчэ далей,
Дык не хадзіў бы знерваваным
І жыў бы, можа, весялей.

За сінявой, у хмурным часе
Ахвярны ранак не відзён,
І меней, меней у запасе
І спраў, і сіл, і проста дзён.

Назад вярнуцца б на імгненні –
Хай горыч на лясы сцячэ.
Там зацвітае сад вясенні
І не баліць душа яшчэ.

Не азіраўся б я праз далі
І не хадзіў бы сам не свой,
Каб так шалёна не свісталі
Шпакі ў тым ранку за смугой.

***

За снег, што цешыў белізной,
Бялейшая лілея.
Дык будзь жа светлым смутак мой,
А смутак – не святлее!

Жаданне збегчы хоць куды
З гармоніі вясенняй.
Хачу збавення ад нуды,
Аднак няма збавення.

І ты, вясна, не дакарай,
Што больш люблю завею.
Мне б паляцець за небакрай,
Ды я лятаць не ўмею.

Гляджу: лілеі зацвілі,
Сарву адну бялютку.
Мне, зрэшты, светла на зямлі,
Але замнога смутку.

***

Святлее рунь і весялеюць нівы,
Якія спрэс не заглушыў быльнёг.
Ляцець не час, ды чутны ўздых тужлівы.
На ўсход, на ўсход адвечны шлях пралёг.

Зрудзелы ельнік, дзе гулялі змалку, –
Відочна, цэзій сыпануў сюды.
Чыясь душа, чарнейшая за галку,
На ўсход ляціць да змоўклай чарады.

Ёсць Божы суд –
за хамства, подласць, здраду.
Ляціць душа – дрыжыць ад жаху сцень.
Жыццё прайшло і смерць далёка ззаду.
Чаго баяцца, каб не Судны дзень?

Паклон сяўцу! Вітанне аратаю!
На ўсходзе барву топіць неба сінь.
Не знаю сам і вас я не пытаю,
Чыя душа мільгнула ўдалячынь.

***

Нудзіць дождж у акне
Ціхі, нібы вінаваты.
Як не хацелася мне
Сёння вяртацца дахаты!

Горыч і вусцішны змрок –
Даўнія тут пастаяльцы.

Быццам вада праз пясок,
Точацца хвілі скрозь пальцы.

Воблачкам пыхне, як дым,
Час мой, зацiснуты ў жмені.
Нельга прашыцца сухім
Праз дажджавыя струмені.

Гусі, шпакі, журавы
Дружна ляцелі дадому.
Толькі вось дождж яравы
Нудны без ветру і грому.

***

Час мае ў расе
Выбеліў палотны.
Сонца пакрысе
Робіцца спякотным.

Весялей, часцей
Ветрыку сваволя.
З суравых ніцей
Тчэцца летнік поля.

Адзвінелі ўгрунь
Ручаі зіхотка.
Зелянее рунь
Густа, нібы шчотка.

Летнік той суздром
З грубае тканіны.

Хай ракоча гром
Аж да асяніны!

Стаў і я сівы,
Бы хадзіў па лёзах.
Лёс мой суравы
Выбелены ў слёзах.

***

Гэтак светла з промнямі ў аконцах
Пачынаўся і той самы дзень,
Як на лёс наш, засланіўшы сонца,
Крумкачовы лёг навечна цень.

І цяпер – ці зблізку, ці здалёку –
Ехаць, бегчы з думкаю адной:
Хоць бы кветкі не завялі ў спёку
На магілцы сына дарагой.

Не, цвітуць! І чмель гудзе над імі.
Ды лягчэй, калі вакол снягі.
Чорнымі ж палоскамі сваімі
Чмель прыбавіць смутку і тугі.

***

Памяць ніколі, відаць, не забудзе
Ночы і дні, што сцякаюць слязой.
Толку, аднак жа, няма ў самасудзе:
Лёгка прыкрыцца віною чужой.

Каяцца трэба зімою і летам,
Бо папярэдзіць я гора не змог.
Вось і стаю перад родным партрэтам,
Бог мне суддзя, дык судзі мяне, Бог.

Вунь ён ідзе ў акружэнні прысяжных,
Спешна абраных з бяроз і рабін,
Блізкі такі і такі недасяжны,
І да прысуду ўжо мала хвілін.

***

Думаю. Сумую.
Ноч – і ўжо світанне.
Цішыню нямую
Узарве рыданне.

Маем стала прыкра.
Чэрвень супакоіў.
Ліпень сына выкраў.
Жнівень боль патроіў.

Скруха, як хвароба,
Будзе невылечнай.
Гэтая жалоба –
Да канца, навечна.

Майскія зарніцы.
Чэрвеня пракосы.
Ліпеня чарніцы.
Жнівеньскія росы.

***

Чаму ж так? Гляджу вінавата.
Лёс вырваў з пагляду майго
І сына-салдата, і брата,
І брата яшчэ аднаго.

Іх больш не спаткаю ні ў жыце,
Ні ў лесе між хвой і ялін.
Ну, спіце, харошыя, спіце,
А я тут як-небудзь адзін.

І сумна ўсміхаюся маю,
І зоркі лічу давідна,
І ў слёзах за вас падымаю
Прагорклую шклянку віна.

***

Хто за мной і хто перада мною,
Пэўна, рады сонечнай вясне.
Ранак поўны светлага настрою,
Ды святлынь прызначана не мне.

Хай ужо вясёлыя бясконца
П'юць блакіт азёраў і нябёс.
Мне ж, не раз асушаны да донца,
Кубак са слязамі дзень паднёс.

Воблікі людзей перад вачыма
Цугам праплываюць з-за смугі,
І забыць між імі немагчыма
Воблік сына, самы дарагі.

Сёння зноў я, змучаны дазвання,
На вясёлых здзіўлена гляджу.
Ранак, поўны светлага чакання,
Засланіў раптоўна шум дажджу.

## НА ПАЎНОЧНЫХ МОГІЛКАХ

Напомняць аб хвілях урочных
Крыклівай гайнёй крумкачы.
На могілках гэтых Паўночных
Заплач, уздыхні, памаўчы.

Журбы і любві панарама,
Брыдзе ў задуменні народ.
Не толькі паўночны напрамак –
Тут поўдзень, і захад, і ўсход.

Скарынка бадзяжнаму пёсу,
І ўся вось карысць ад жывых.
Ды нельга змяніць супраць лёсу
Тут месца сустрэч ракавых.

***

Хандра ці роспач гэтак тузане –
І жыць няўцям, і спавядацца горка.
Гляджу ў акно: не свеціцца ў акне
Надзеі лепшай родавая зорка.

Яна ж дзесь ёсць, як дах над галавой,
Няхай сабе і цесныя «хрушчобы»,

Сярод якіх у немаце глухой
Мне сёння адзінота даспадобы.

Сябе я дакараю, а не вас,
Мае сябры, чый спогад прыкмячаю.
Тут праклянеш і нараджэння час,
І будзеш выць з пакуты і адчаю.

Пра лепшае не думай і не мар:
Ёсць боскі шлях у лёсе невядомым,
І мноства зорак ззяе паміж хмар,
Ды беспрасвет над анямелым домам.

***

Гай такі ж, як і быў, светлачубы,
Ды слабее птушыны ў ім грай.
Толькі сціснуты роспачна губы,
Ды сябе за свой лёс не карай.

Пацішэлыя нівы і хаты.
Не шуміць веснавая вада.
Так змаўкае душа пасля страты,
І нічога тады не шкада.

Слугі д'ябла ў цянёты злавілі,
І астрогам здаецца мой дом.
І мяне ж па секундзе, па хвілі
Чацвяртуе гадзіннік жыўцом.

Час ідзе – ні журбы, ні дакукі,
І здзіўляе вясна ўсё радзей.

Толькі горнуцца стомлена рукі
З кожным кругам бліжэй да грудзей.

***

Дык вось які ты, дзень пакуты!
Нічым ужо не ўцяць душу.
Да суму вечнага прыкуты,
Над прорвай памяці вішу.

Ты не была, зямля, нялюбай –
Магла і боль перамалоць,
Аднак арол з крывавай дзюбай
Ляціць крамсаць чужую плоць.

Расой чырвонай бліснуць гоні.
Іржава бразнуць ланцугі.
Смыляць прабітыя далоні,
Ды не прашуся я ў багі.

Свае пакуты мне, зямному,
Трываць, не ўзняўшы галавы,
Але прабіўся ўжо на строму
Прамень пяшчотны і жывы.

## САВА

Ноч прыйшла і – спакой
Ды кашмараў жарства,
І бясшумна ў пакой
Заляцела сава.

Што ні сніцца – плыве
Нейкі вычварны цень.
Альбо пнём па саве
Ці савою аб пень!

Я ж цябе не забіў,
Дык, пачвара, адстань!
Але кружыць наўздзіў
Бесцялесная здань.

То з бакоў, то ўгары,
То ляціць у акно.
І тырчаць кіпцюры,
І мальбы не чутно.

Толькі з пробліскам дня
Знікла дзесьці сава.
Пустата. Цішыня.
І – баліць галава.

***

Было – няпраўда і даўно,
І ўсё прайшло, як саду сполах.
Дзе льюцца песні і віно,
Там весела сярод вясёлых.

Гуляе свет, а мне нуду
На шалі кінуў лёс гаркотны,
І я на баль той не іду,
Дзе нехта ўжо сядзіць маркотны.

***

Боль і горыч, як і быць павінна,
Бо ў нябёсах вызначаны лёс.
У самоце і спакусе віннай
Новы дзень усмешкі не прынёс.

На сябе, на жаль. не глянеш збоку,
Вось і ходзіш, знішчаны датла.
Кажуць, я пясняр журбы і змроку,
Хоць душа і рвецца да святла.

Ты, мая бядовая, ці помніш?
Марна жыў, а заўтра жыць марней,
І па шкле зноў барабаняць промні
Гэтак жа маркотна, як раней.

На ваду не стану дзьмуць, магчыма,
Хоць апёкся быў на малацэ.
Новы дзень, і – торба за плячыма,
І жабрацкі посах у руцэ.

***

Царства ценяў безгалосых.
Царства дня, а не начы!
Дрэвы вымыліся ў росах,
Цені ў травы кладучы.

Хто ж тут я – пусты, цвярозы?
Стань ля гаю – глянь наўскрай:
Мабыць, гэта цень бярозы,
На якой варонін грай?

Блізка поле. Луг чмяліны.
Стань на сонцы і пабач:
Можа, гэта цень яліны,
На якой сядзіць крумкач?

Згодзен я: адлетуценіў,
Справіў баль у час чумы.
Царства дня – то царства ценяў.
Царства ночы – царства цьмы.

***

Сціхае лесу шум слабы
І зорыцца нябёс прадонне.
Я ведаю, з якой журбы
Люблю вячэрняе сутонне.

За дзень стаміўся, ідучы,
Ды не спаткаў іх анікога,
Хто толькі ў снах сярэдначы
Гуляе прывіднай дарогай.

Яны маўчаць, дый што сказаць,
Калі пакутай вусны сцяты?
Вядома, Млечны Шлях – не гаць,
Дзе пах віецца руты-мяты.

Тут, на зямлі, на той траве
Кладзецца ночы цень і знюўку
Душа збалелая заве
Да ранку ў зорную вандроўку.

***

Наш век чалавечы, на дзве ён паловы
Расчыніцца ўсё ж, нібы струк:
У першай палове – настрой адмысловы,
Другая палова – для мук.

Мяжа паміж імі ў зеніце праляжа –
То радасць, то слёзы, то гнеў.
Яшчэ небасхіл не палохае сажай,
Але відавочна счарнеў.

Над жытам шамоліцца ветрык лагодна,
Цвіце паўз гарох сенажаць,
Ды толькі чамусьці і Богу заўгодна
Струк самы даспелы сарваць.

***

Іх ценям, зусім невядомым,
Ужо не паможаш нічым.
Пайшлі за дажджамі, за громам,
Пайшлі і расталі, як дым.

Я іх уначы пагукаю,
Прыгледжуся ўдалеч і днём.
Пайшлі без нуды, без адчаю,
І сціх над сялібаю гром.

Знямелі сякеры і кельмы.
Парос на падворках быльнёг.

Пайшлі мае лепшыя шэльмы,
І шлях дзесь у зорках пралёг.

Не помню пагляд іх старэчы,
Забыў іх усмех малады,
Але ў прадчуванні сустрэчы
Жыву, як яны, без нуды.

***

Вунь Харона чаўны. І – бязмоўе.
Кінуў лёс пакаленні на глум.
У бяроз, як і ў нас, белакроўе,
І няма прасвятлення для дум.

Усё роўна – ці хвойнік, ці ельнік.
Свой надзел я дзесь побач кашу
І даўно, быццам вожык-пустэльнік,
Пад калючкі хаваю душу.

Гоніць прэч па дрыгве адзінота
З тых часін, калі быў маладым.
На знямелых выгарах балота
Горкі ўночы пачуецца дым.

Не спяшайце, чаўны, не адчальце:
Мноства з'яў таямніцай пакуль.
Вось і сёння па мокрым асфальце
Вожык бег, а куды і адкуль?

***

Лес птушыны повен шалу.
На зары касцёр патух.
І вяртаюцца памалу
Востры зрок і моцны дух.

Забываюцца пакуты,
Дай жа, Бог, каб назаўжды!
Ды бяссонныя мінуты
Не вярнуць, як і гады.

Востры зрок працяў бярэзнік –
Ілюстрацыю да кніг.
Моцны дух, ты ж хоць не счэзні,
Паявіўшыся на міг.

Маладзік плыве, бы човен,
За маркотны далягляд.
Лес птушыны шалу повен,
Як і пяць гадоў назад.

Росна бліснулі нізіны,
Дымам цягне ад зямлі.
Попел, прысак, успаміны,
Чорныя, як вугалі.

***

Ластаўка, бывае, прасвіргоча
Там, за крыжавінаю акна,

Ды ўсміхнуцца ў ім душа не хоча,
Бо і радасць не на ўсіх адна.

Лёс у кут загнаў, нібыта ў буду,
І яго, свой лёс, як ёсць прымі.
Ды яшчэ, відаць, смяяцца буду,
Хоць той смех прамочаны слязьмі.

Радасць, пэўна, зноў перахапілі
Злыя духі, рынуўшы з-за хмар.
Ды надзея ёсць, што храмаў шпілі
Боль прымаюць, як маланкі ўдар.

І пакуль я, на акне распяты,
Слухаю ў цішы сабачы брэх,
Ластаўка, ляці да тае хаты,
Дзе смяяцца весела – не грэх.

## ЖЫВУ, ЯК ЁСЦЬ

Па валунах, паміж крыжоў, па ўхабах
Вядзе мой лёс, ды я не ўпершыню
Як з попелу ўстаю і нават слаба
Рукой махаю сонечнаму дню.

Жыву, як ёсць, гарачых слёз не сцёршы,
Я і пайду, нястолены навек,
Не самы лепшы, ды не самы горшы,
А кажучы прасцей, дык – чалавек!

На сонцы – млява, на вятрах – азябла,
Пайду праз лёс, што мроіцца вачам,

Забыты Богам, не прыняты д'яблам,
Сярод такіх жа смертнікаў, як сам.

***

Ныюць раны, штосьці мучаць раны.
Ноч пякельнай дыхае жудой.
І жыццё – аблог недаараны –
Зарастае белай лебядой.

Новы дзень пачнецца, дзень вясновы.
Самы час падумаць аб сяўбе.
Ды гарчаць не сказаныя словы
І шкада чамусьці ўжо сябе.

Знікла дзесьці сіла, трэба сіла,
Каб далей павесці баразну.
Лебяду каса зары скасіла –
Чырваніцца даль праз белізну.

Будзе сэрцу млосна, будзе горка,
Лёс гукне няведама куды,
Ды пакуль што па ярах і ўзгорках
Ноч сплывае рэшткамі жуды.

***

У цішыні трывожнай і дрымотнай
Імгненні ёсць, калі душа пяе.
І вось надзея кружыцца самотна,
І доўга потым светла ад яе.

Напэўна, мне ўсміхнецца Багамаці,
І я тады знайсці б дарогу змог,
Каб не блукаць праз ноч па коўзкай гаці
Над прорвай, што зазеўрала ля ног.

Іскрыць жыццё, аднак ступіўся крэмень
І лёс ахвярнай чарай не абнёс.
Імгненні, што асвецяць раптам цемень,
Прымаю сёння, быццам дар нябёс.

Імгненняў тых да крыўднага так мала.
Душа пяе? Не верце, то – хлусня!
Надзея, пакружыўшыся, прапала,
І зноў трывожна дрэмле цішыня.

***

На полі сваім папяровым
У смутку і ў светлыя дні
Да зерня падобныя словы
Кідаю з душы, як з сяўні.

І потым, чакаючы ўпотай,
Я кожнаму каліўцу рад.
Засевак то сушыць спякота,
То нішчыць на корані град.

Як сейбіт не дужа старанны,
На хмары люблю паглядаць,
Вось толькі нябеснае манны
Няма і не будзе, відаць.

Была б мая праца забыта,
Ды з нівы, засеянай мной,
Да дня, як з сапраўднага жыта,
Крычаць перапёлкі гурмой.

***

Не сказаць: жыццё слязой гняце,
Лепш сказаць: было б усё ў ажуры,
Ды хадзіць абрыдла па слаце
І стамілі вечныя хаўтуры.

Непрыкметна ў азярыне дно
Зацягнулі глей і сапрапелі.
Так і тут: прасвету не відно,
Хоць яшчэ нажыцца не паспелі.

Цішыні жаданай не прынёс
Дзень, грымучай сумессю наліты.
Вось зараслы вольхамі алёс,
Вось багун, дый гэты ядавіты.

Вольны вецер шастае ў трысці.
Дзень ужо счарнеў на небакраі.
Жоўтай ваўчаягадзе цвісці,
І па-воўчы выць у воўчай зграі.

Дзесьці тут дарога ў царства цьмы
Па дрыгве, па некашах алёсу.
Не сказаць, што мучанікі мы,
Лепш сказаць, што мы – ахвяры лёсу.

## РАЗБІТАЕ КАРЫТА

Каля разбітага карыта
Стаю, наструньваючы слых,
Бо з далечы, імглой прыкрытай,
Чуваць шум кропель дажджавых.

Звычайны гром, але трывогу
І нават жах наводзіць ён:
З-за радыяцыі, з-за смогу
Нябеснай кары час відзён.

Грудамі, нівамі, пакошай
Ужо ляціць дождж наўзгалоп.
Няма лагоды, як і грошай,
Дык і не страшны той патоп!

Няхай вада бурліць сярдзіта,
Мяне даставіць на ўзбярэг
Маё разбітае карыта –
Непатапляльны мой каўчэг.

***

Час, што рушыць горы, не збярог
Для патомкаў жураўля і чаплю.
Не дайду туды праз чорны смог
І на баль вар'ятаў не патраплю.

Сухавей – ні ліўняў, ні грамоў.
Згінуў край, які калісь любілі.

Там пыляць разваліны дамоў
Ды ржавеюць скрозь аўтамабілі.

Тут жа сцебанула, запякло,
Турзанула так, што свет нямілы,
І тужэй, тужэй пакут сіло,
Хоць яшчэ трапечуць слаба крылы.

Кожны з нас між селішчаў былых
Праляціць – хто крумкачом, хто знічкай,
Ды пакуль што светла цешыць слых,
З-пад журбы прабіўшыся, крынічка.

***

Ці з ночы ў ноч, ці з праху ў прах,
Аднолькава ў нябёсах зорных
Для кожнага праляжа шлях
Вяртання з ісцін ілюзорных.

Хто не хацеў, а хто не ўмеў
Глядзець на рэчы песімістам.
Святло і цень, мілосць і гнеў
Губляюць сэнс у часе мглістым.

Не смейся, ветраны сусед!
Усім – тутэйшым і прыблудным –
Нам з праху ў прах і след у след
Ісці ў той дзень, што стане Судным.

***

Час цячэ павольна, бы смала,
І, відаць, у часе я застыну
Гэтак жа, як некалі пчала
Зацвярдзела ў кропельцы бурштыну.

Шарык часу – дзіўны экспанат! –
У музеі дзесь агледзяць кпліва:
– Унутры не сейбіт, не салдат,
Дык хутчэй якісь аматар піва.

Не ўвайсці маўчаннем у давер,
Не разжаліць шкоднага патомка.
Гэты ж час, дзе я жыву цяпер,
Для мяне ва ўсім – галаваломка.

Натаміўся свой шукаць выток,
І калі іду, напрыклад, з гаю,
Дык цяжэй, марудней кожны крок –
Застываць у часе пачынаю!

***

Людскі падзелены спажытак:
Пірог – сычу, асцё – рабу.
І як не ўспомніць каля жыта
Несправядлівую сяўбу!

Каню ўсё роўна – воз ці сані,
Калі паклажа ў іх адна.
Галодных аратаяў здані
Блукаюць нівай давідна.

Сваяк! Сусед! У спелым жыце
Спаткаць не страшуся цябе.
Малітву, губы, не шапчыце,
Не плачце, вочы, у журбе.

Сабраўся я ісці дахаты,
Ды ён стаіць перада мной –
Ужо не сейбіт, не араты,
Але з працягнутай рукой.

***

З тых мясцін, што сняцца ўсё радзей,
Дзе не моўкнуць сосны-самагуды,
Далятаюць галасы людзей,
Ды яны ўжо не завуць нікуды.

Чую смех чужы і чыйсьці ўздых.
Чую дзесьці слабы гул авацый.
Галасы і мёртвых, і жывых –
Гэта, пэўна, знак галюцынацый.

Галасы знаёмых і сяброў.
Галасы між мрояў і рэалій.
Так далёка я ад іх зайшоў,
Нават дзіўна: як і адшукалі?

Галасы адрозніць не паспеў,
Хоць іх слухаў многа зім і вёсен,
Бо пачуўся і матулін спеў
У журботным перагудзе сосен.

***

Міма ельніку старога,
Што навейвае жуду,
Ты бяжы сабе, дарога,
Бо далей я не пайду.

На душэўную бяседу
Пагукаў вясёлы гай.
Не пайду і не паеду,
Хоць гукай ці не гукай!

Ёсць каму крычаць прамовы,
Ёсць каму і піць да дна.
Свет вялікі, свет суровы,
А дарога ў ім адна.

З лесу сцежкай паўз абрывы
Выйду прама на шашу.
Падарожнік я фальшывы,
Бо кульбакі не нашу.

Далягляд шаша рассекла,
І ў бясконцай грамадзе
Хоць у рай, а хоць у пекла
Дойдзе кожны, хто ідзе.

***

Хоць валуны гадоў ляглі на плечы,
Не трэба хмурыць горычна чало.
Жыцця, аднак, шкада па-чалавечы,
Бо вечарэць зарана пачало.

Гараць нябёсы, як у пеўня грэбень,
І ў полі сцежкі слаба ўжо відны.
Непадалёку дзесь на друз і шчэбень
Драбілка часу крышыць валуны.

Ні скрогату, ні гуку, і аб вечным
Прыходзяць думы, сумныя зусім,
Ды ў зорным небе Шлях, названы Млечным,
Цярушыць пыл, што быў жыццём чужым.

Тут нехта жыў, ішоў праз дождж і кулі,
Крычалі пеўні, дый цяпер крычаць,
І валуны гадоў, што долу гнулі,
Сям-там яшчэ ўцалелыя ляжаць.

## ПЯРЭВАРАЦЕНЬ

Дужа зменлівы гай
У вячэрняй аздобе.
Мне б хацелася ў рай,
Ды на д'ябла падобен.

Нахадзіўшыся ўдзень,
Жарт я выдаў няўдалы.
Лёг апошні прамень
На шляхі і прагалы.

Сціх у шэрані гвалт –
Спаць і дзятлу, і сойцы.
Учарнеў я накшталт
Смалакура-прапойцы.

Стаў сляпы і глухі,
Быццам злеплены з гліны.
За якія грахі?
За якія правіны?

Не, не з гліны! Агонь
Паліць сэрца вузельчык
І слязінка далонь
Апякла, як вугельчык.

Ранкам росы ўпадуць,
І між дрэў, як на вечы,
Паспрабую вярнуць
Воблік свой чалавечы.

***

Акунуцца ў бурнай плыні –
Змыць і роспач, і нуду.
Я пайду цераз быстрыні,
Хоць, напэўна, не пайду.

Першы крок, і хтось з туману
Дзеране за рукаво.
Час усё ж залечыць рану,
Ды смыліць балюча шво.

Вунь аблокі белай воўны.
Чыйсьці позірк. Чыйсьці ўздых.
Сум імпрэсій неўтаймоўных.
Горыч сімвалаў сляпых.

Ні адхлання, ні палёгкі,
Ды ўвядуць яшчэ ў адчай
Гэты мосцік, вельмі дрогкі,
Гэты высахлы ручай.

## МЕЖАНЬ

Вясна мінула з шумам-гулам.
Сезон маўчання надышоў.
Вада, што ў вір мяне цягнула,
Сцякла з высокіх берагоў.

Жаўцеюць водмелі і мелі,
І ўжо ляшчыннік стаў руды.
Тут навальніцы прагрымелі
І змылі свежыя сляды.

Цішэе плынь, але аднойчы
Упэўнішся, што на вяку
Ступіць наўрад ці ўдасца двойчы
У тую ж самую раку.

Вады сезоннае стаянне,
Ды межань пройдзе, і знутры
Раку ўзарве слаты дыханне
І зноў закруцяцца віры.

## ІГРОК

Хай не цесля і не муляр,
Дык чаго там шкадаваць!
Захацеў жыццё, як шулер,
Сам-насам пераіграць.

Мой набытак жалю варты,
Не прыдумаць і знарок.
Дні тасуюцца, бы карты,
Ды няўдачлівы ігрок.

На стале пасьянс раскласці
Зможа кожны пустаслоў.
Што ж, як болей чорнай масці,
Чым тузоў і казыроў?

Не было шанцунку ў карце –
Скрозь грахі і скрозь даўгі,
Бо не помніў у азарце
Я пра Дантавы кругі.

Дзесь дыміцца смалакурня
І вар'яцкі смех наўкол.
Паіграў з жыццём у дурня,
І вось голы, як сакол.

***

Начаваў пад кустом ды ў кювеце
І вінам ды табакай прапах.

Колькі год марнаваўся на свеце,
Не відаць па змакрэлых вачах.

Як жылося бярозе з сасною –
Расказала пра ўсё абалонь.
Мне ж нягоды халоднай расою
Незаўважна апырскалі скронь.

Шлях павісне над голаю кручай,
І буран, як і вечнасць назад,
Сыпане ў вочы соллю пякучай
І заслоніць слязой далягляд.

Б'е пярун, толькі я не ўздыхаю,
Бо люблю, ненавідзячы, свет,
Дзе няма пад кустом болей раю
І дажджом залівае кювет.

## ЗЯЗЮЛЯ

На світанні неба зорыць,
Полаг лесу стаў святлей,
Дзе зязюля ці ўзбадзёрыць,
Ці пакіне без надзей.

З нейкім сумным спачуваннем
Закукуе раніцой,
Простым спосабам – складаннем
Век падлічваючы мой.

Там плюсы, дзе я свядома
Вёў жыцця здаровы лад –
Не гуляў, не піў і дома
Не ўсчынаў грызні і звад.

Без жальбы яна адыме
Дні, што па маёй віне
Зніклі ў цыгарэтным дыме
І патоплены ў віне.

Ды ўсё ж добра, што зязюлі
Невядомы стрэс і шок.
Бач, вятры мяне прыгнулі,
Горшы зрок, слабейшы крок.

Так зязюля-сацыёлаг
Мне хлусіла і тады,
Калі вось пад гэты полаг
Я прыходзіў малады.

***

Тут, у соснах, ясна і высозна,
Золатам адсвечвае кара.
Бор напомніў: рана альбо позна
Развітання настае пара.

Пакаленні з роспаччу ў паглядзе
Дагараюць ціха і датла,
І за соснамі на даляглядзе
Болей хмар, чым вабнага святла.

Крыўдныя, пагардлівыя словы
І хлусню, калі душой быў слаб,
Як сцярпеў ты, чалавек скарбовы,
Канстытуцыі слухмяны раб?

Век мінае ў згадках незайздросных,
І чакаць дабра няма адкуль.
Хоць яшчэ высозна ў гэтых соснах,
Марны скарб ужо кладу ў хатуль.

***

Д'ябла ноч! Лячу, нібы на хвалі,
То ўгару, то ўніз, і не відаць зямлі.
Спаць мне ўчора думы не давалі,
Ды і сёння вэрхал паднялі.

Зноў вісець над безданню, над прорвай,
Зноў трымцець, бы лісцік на вярбе.
Як ты ласкай д'ябла не адорвай,
Рады ён, што моташна табе.

Зубы сціснуў – не стагнаў, не ахаў.
Лепш маўчаць, загледзеўшыся ў змрок.
Я падданы твой, краіна жахаў,
І плачу мучэннямі аброк.

І лячу, прыроды сын бядовы,
То ўгару, то ўніз, да зорак і далей.
Але там, дзе кроваточаць словы,
Вольна думам і – вачам святлей.

***

Непадуладны словы
Халоднаму пяру.
Узрушаны, нервовы,
Я слоў не падбяру.

Знябыты, не сагрэты,
Закляты вокам злым,
Купляю цыгарэты –
Глытаю горкі дым.

Сцвярджаюць: ад маркоты
Ратуе ён, бадай.
Калі прыдбаны боты,
Аб лапцях забывай!

Стаю, куру – задумны,
Глытаю нікацін,
І першым самы сумны
Прыходзіць успамін.

Мае мальбы пачуты,
І вось за стол – пара,
І ўжо шчымяць пакуты
На кончыку пяра.

***

Ці то дзень, ці то ноч – невядома,
Шэры змрок у вачах і ў акне,
І такая нязбыўная стома –
Гне, як быццам над плахай, мяне.

Што ж, будзільнік, у смутку не цікай,
Размаўляй весялей з цішынёй.
У хвіліне тваёй невялікай
Цэлы свет разам з доляй маёй.

Дзесьці Жыжаль раздзьмуў свае горны,
Звон жалеза, і бачна: з начы
Скача конь вараны, – значыць, чорны,
Ды і коннік у чорным плашчы.

Жах такі, што і рукі паслаблі.
А будзільнік трашчыць: гэта ж дзень!
І – святлынь! Толькі мроіцца шаблі,
Нада мною занесенай, цень.

***

Белы птах на ўзлёце – ці не лебедзь?
Чую: плача каня праз імжу.
Змучаны дазвання, калі-небудзь
Пра жыццё сваё вам раскажу.

Ды шкада: аповесць у навелах
Будзе без пачатку і канца.
Вельмі ж часта сэрца крывавела
І душа балела ў малайца.

Можа, нейкі злоснік засмяецца,
Назіркам за мною ідучы.
Лебедзя прыдумаў я, здаецца,
Ды жывы сцярвятнік на плячы.

Эпілог маёй самотнай былі
Не падменіш радасцю чужой.
Вы пра каню, мабыць, не забылі?
Дык яна ўсё плача за імжой.

***

Слата і гразь – налева ці направа,
Але іду між вёсак і кладоў,
І ўсё цяжэй, бо час не горш за ўдава
Сціскае цела кольцамі гадоў.

Мой шлях зямны, паддаўшыся азарту,
Акрэсліў, мабыць, нейкі ветрагон:
Жыццё і лёс пастаўлены на карту,
І нават гора кінута на кон.

Не знаю, хто з ухмылкаю гвалтоўнай
У рукі сунуў крапленую масць.
Мяне прайгралі – гэта безумоўна,
І адыграцца шанцу час не дасць.

Мой шлях зямны! Бывае, за жывое
Бярэ адчай, што марна гразь мяшу.
О, час-удаў! Зноў кольца гадавое
Сціскае з тленным целам і душу.

***

Мой апостал, дух прарока,
Гэтай ноччу, што ідзе,

Наблукаешся ў аблоках,
Пагуляеш па вадзе.

Што дзе бачыш – не раскажаш,
Трэба знаць адно табе.
Ноч счарнела, быццам сажа,
Спіць русалка на вярбе.

Ноччу многа дум самотных,
Ранкам трошкі менш нуды.
Аблачынкі, як палотны,
Паплылі наўсцяж вады.

Хоць і золь, што соль, у вочы,
Пасяджу ля ручая.
Мой апостал, дух прарочы –
Гэта выдумка мая.

Па зямлі, дзе бегаў змалку,
Толькі лёс, як цень, брыдзе.
Разбудзіць хацеў русалку,
І – яе няма нідзе.

## ШЛЯХ БЯРОСТЫ

У міжбор'і, дзе гэтулькі дзіў,
Беларусь, ты падобна красою
На бярозу, што Бог пасадзіў
І паліў вельмі горкай вадою.

Не прыціх бы ў самоце мой дом
І хмызняк не запоўз бы на ніву,
Ды атруты нячысцік тайком
Сыпануў у ваду для паліву.

Папытайце ў ссівелых людзей,
Перад светам і небам сумленных:
Сок бярозавы быў саладзей,
Чым цяпер, у гаях даваенных.

У падзей ракавых не наўзбоч
Перад новым якім ліхалеццем
Ты, бяроза, у страшную ноч
Зашумела павіснутым веццем?

Шлях Радзімы на ружы вятроў
Не прарок, а бяроста прадкажа –
То чырвоная ўранку, бы кроў,
То счарнелая ўвечар, бы сажа.

## ШЛЯХІ ПАКУТЫ

Пыляць шляхі, дрыжыць наўсцяж
Чырвоны водсвет канюшыны,
І не прымаюць мой ваяж
Ні сіні луг, ні гай птушыны.

На нервах вымучыў цану
Вяртання з адзіноты ранняй:
Нясу пякучую віну
І сум як спосаб апраўдання.

Пыляць шляхі, жыты наўскос
Ад вёсак марывам спавіты.
На луг спусціўся беларос,
На гай лёк одум хваравіты.

Не кайся, брат, і зберажы
Вяртання роспач у паглядзе:
Малюе раніца крыжы
На невясёлым даляглядзе.

Пыляць шляхі, зямля ў журбе
Пасля чарнобыльскага ўдару.
Скажы, аднак, ці сам сабе
Ты не шукаў такую кару?

## СЛАВЯНЕ

З пыхай былых фарысеяў
Новае блудства паўзе.
Дзесь у тумане Расея.
Дзесь Украіна ў смузе.

Цэрквы суседзяў няздольны
Склікаць на Спас і на Ян.
Толькі Чарнобыль супольны
Сёння застаўся ў славян.

## ЧОРНЫ РОДЖАР

Мора тут няма, і карабелы
Рады бруднай прыпяцкай вадзе,
Але там, дзе віўся ветразь белы,
Чорны Роджар сёння рэй вядзе.

Сснякі, пагоркі ды балота.
Рэшткі хат украплены ў пейзаж.
Людзі Флінта ў моры Герадота
Узялі жыццё на абардаж.

Белы ветразь мрояў і надзеі
Знік у хвалях, мабыць, назаўжды.
Калыхнуў імглу, што не радзее,
Чорны Роджар смутку і жуды.

Тут фарватар мелямі багаты
І прапалі бакены ў туман.
Вам здабычу не спажыць, піраты,
Вас чакаюць буры, капітан.

Вецер сціх, ды мала суцяшэння.
Боль цячэ па выспах, па дрыгве.
Чорны Роджар да свайго крушэння
На агні Чарнобыля плыве.

***

Гудуць над зямлёй, быццам шэршні,
Былыя стагоддзі і дні.

Імчыцца па нерушах вершнік
На мройна-світальным кані.

Імчыцца наўсцяж небакраю –
Вось родныя дом і рака,
Дзе сцяг ля Зялёнага Гаю*
Высока трымала рука.

З мячом па далінах, па гонях,
Падковамі высекшы звон,
Імчыцца, імчыцца Пагоня
За славай сваёй наўздагон.

## ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ

Чую крыкі птушкі двухгаловай.
Бачу ейны кіпцюрасты цень.
Дзесьці слова, матчынае слова
Кнігаўкаю жаліцца ў сухмень.

Зноўку лета скутак небагаты.
Бабцы страшна – рады хоць якой.
Бабка слова матчынае з хаты
Праганяла кволаю рукой.

Ні дажджу, ні грошай. Дзьме са шчылін.
Бабцы страшна і душа баліць.
Бабку слугі д'ябла падвучылі
Матчынае слова разлюбіць.

---

* Грунвальд (*ням.*)

Прыйдзе восень – прыйдзе і хвароба.
Золь змяёй у хату запаўзе.
Ды пакуль што на задворках побач
Кнігаўцы нязможацца ў смузе.

Чую стогны з цішыні вясковай.
Бачу здані бедства навакол.
Без крывінкі матчынае слова:
Кнігаўку чужы дзярэ арол.

***

Хтосьці нішчымнай капусты пасёрбаў,
Хтосьці распух ад сыроў і вянглін.
Хопіць вам, старцы, пакутаў і торбаў,
Хопіць базараў і людных мясцін.

Нехта прыгнецца над шапкай парванай,
Нехта з пагардаю лыч задзярэ.
Беднасць спрадвеку не лічаць заганай.
Боль і гаркота, і дождж на дварэ.

Поўны багаццяў, ад ранку да ночы –
Побач з малітвай віруе базар.
Кажаш, у старцаў не божыя вочы?
Стань і прыглядзься, жыцця валадар.

***

Ніхто цяпер табе не дапаможа,
Бо дабрата шчыруе ўсё радзей.

Няхай жыве мая любоў і, можа,
Яшчэ і я вярнуся да людзей.

Пакорліва-слабы перад натоўпам,
Які штурхне ды асмяе спярша,
Стаяць не буду ідалам ці стоўпам,
Таму што ёсць і ў каменя душа.

Прыняў я сам і слёзы, і пакуты,
І спагаду ў людзей прасіць не змог,
Але ад іх, чужых і падманутых,
Няхай любоў не забірае Бог.

***

Дарога, адзіная ў лёсе,
Праз холад і цемру вяла.
Касцёр мой на чэзлым алёсе
Згасае, і меней цяпла.

Лясіну без добрага плоду
Сяку і кідаю ў агонь.
Чаму ж на благую пароду
Змала засвярбела далонь?

Сырое не возьмецца голле,
Хоць дымам заўецца лаза,
І лёгка патушаць вуголле
Расінка з лістка ці сляза.

***

Світанак ціха настае –
Вось промні пырснуць хутка.
І думы-вобразы мае
Знікаюць па закутках.

Птушыны грай паміж бяроз
Мацнее паступова.
Знікаюць дзесьці рэшткі слёз,
Што перальюцца ў слова.

Знікае жур, знікае страх –
Спакой адчуе цела.
Яшчэ шарэе ў трох вуглах,
А покуць – пасвятлела.

У двор паўзе туман густы.
Зары гарыць палоска.
І праступае з цемнаты
Ікона Маці Боскай.

***

У змрочнай жыцця кругаверці
Хай ночка пацвердзіць нямая,
Што прага і жыць, і памерці
На свеце й сягоння трымае.

Мой боль не закрыць бюлетэнем,
Мой сум даўно неастылы,
Пакуль паміж целам і ценем
Душы развінаюцца крылы.

***

Шугануць увечары зарніцы.
Прарakoча гром над галавой.
На шматкі раскройваюць нажніцы
Палатна жыццёвага сувой.

Сем разоў яго мне лёс адмерваў
І адзін зрабіў у часе рэз.
Гэты боль і гэты стогн ад нерваў,
Хоць жыццю не бег наперарэз.

Новы дзень, які хлуснёй азмрочым,
Нарадзіўся ў сполахах зарніц,
І з журбой я ў строкаце сарочым
Чую ляск бязлітасных нажніц.

## КРУТАЯР

Сёння болей, чым учора,
Толку, сэнсу, праваты,
Хоць жыццёвая разора
Запаўзла на схіл круты.

Дзень за днём, нібы каменні,
Шумна коцяцца з гары,
Дзесьці там, у аддаленні,
Зачапіўшы боль стары.

Лёсу крыўднага ахвярам
Ноч намуляе бакі,

Але вось над крутаярам
Зноў шалеюць жаўрукі.

Скача вечнасці кур'ерам
Ранак роснай збажыной
З новай праўдай і даверам,
З новым смуткам і маной.

Ярка браткі і валошкі
Размалюе дня маляр,
І пустэльніку хоць трошкі
Весялей каціцца ў яр.

***

Забуду пругана зла́весны крык,
Цяпэспаля йдучы пад час жніва,
Нябёсы – фантастычны мацярык,
Дзе бачыш то мядзведзя, то ільва.

Любуюся, нібы ў дзівосным сне,
Дасціпнаю гульнёю аблачын.
Але рэальны свет вакол мяне:
Жыты, салома, блізкі гул машын.

Сапраўдны голуб мільганецца зрэдзь,
І, хоць груган яшчэ не акалеў,
Над галавой ашчэрыўся мядзведзь
І грываю трасе сядзіты леў.

***

Аблокі – заложнікі вечнага руху –
І неба паўдзённага вечны спакой
Мяне закружылі, і, гонячы скруху,
Паганы адразу палепшаў настрой.

Грахоў назбіралася болей, чым трэба,
І хутае іней маю галаву.
Я тут, на зямлі, не якісьці паскрэбак:
Што сэрца прымае, дык тым і жыву.

Калі захварэю – у дождж ці завею,
Хай прыйдуць сябры, я чакаю сяброў,
Таму што сам-насам, відаць, не пасмею
У неба прасіць даравання грахоў.

***

Прысніўся дождж, і шум дажджу абвальны
Мяне збудзіў, шалеючы за шклом.
Там сапраўды быў дождж, але рэальны,
І грукатаў рэальны ў небе гром.

Мне снілася: бягу я па балоце
І цэліць грамавержац уздагон.
Прачнуўся ўвесь у поце і самоце,
Незразумелай тайнай мучыць сон.

Гляджу ў акно, дзе ў цемры мокнуць клёны,
Ды нейкія на сэрцы нелады,
Бо існуюць асобна – дождж саснёны
І за акном рэальны шум вады.

***

Па абмежку з высненага поля
Я дахаты стомлена іду.
Шмат багацця́ў абяцала доля,
А дала гаркоту і нуду.

Галава бязмозглая, пустая,
Дзе прапаў твой кудзер і калі?
Лысіны ж патрошку прырастае,
Як у пана сквапнага зямлі.

## КРЫЖЫ

Вунь і вёска, сцішаная ўранні,
За імжою хаты ледзь відны.
Помню, тут, на гэтым скрыжаванні,
Два крыжы стаялі з даўніны.

Мор не раз па волі лёсу злога
Люд касіў за нейкі грэх чужы.
І таму на крыжавых дарогах
Ставілі ахоўныя крыжы.

Божанька быў на крыжах распяты
З галавой, паніклай на плячы.
Бачыў ён асуджаныя хаты
І стараўся ім дапамагчы.

Потым час настаў грэхападзення,
Што крыжы зваліў, нібы чума.

Потым быў Чарнобыль, і збавення
Ад нябачнай пошасці няма.

У бядзе без боскай дапамогі
Вёска вунь выглядвае з імжы.
Тут, дзе скрыжаваліся дарогі,
Не стаялі ў тую ноч крыжы.

***

Не вер ні д'яблу, ні сабе –
Не ўсё праклён ёсць боскі.
Бярозкі ў смутку і журбе
Бягуць на ўскрайку вёскі.

За нашы цяжкія грахі
Прыходзяць пакаранні.
І невідушчы, і глухі
З жудой прачнуцца ўранні.

На сенакосе, на жніве
Дажджоў абвал бясконцы,
І, вымыты з жарствы, плыве
Па ручаінах стронцый.

Пан Бог наш край не засцярог,
Таму ў бядзе і скрусе
Бягуць кудысьці ўздоўж дарог
Бярозкі з Беларусі.

Бягуць па некашы густой,
Праз горкі і лагчынкі,

І доўга бачны за імглой
Зялёныя касынкі.

***

Сярод лазы, сярод імхоў,
Дзе цвіў балотны чысцік,
З маіх пацешыцца грахоў
Люцыпараў нячысцік.

Ваду ўзвіруе вадзянік,
Русалка зарагоча,
Нагоняць страху дамавік,
Лясун і патароча.

Але як толькі дзень міне
І прыйдзе сон абрыдлы,
Тады замучваюць мяне
Пачвары і страшыдлы.

Вось нахапіўся сіні змрок
І пачаліся ловы:
У сетцы сноў звярэе цмок –
Гарыныч трохгаловы.

То выклік царства сатаны
Ці казак адгалоскі?
Якія ж ні цяжкія сны,
Ёсць паратунак боскі.

З малітвай, бледны, нібы цень,
Прачнуся ўвесь у поце
І бачу: зноў заняўся дзень
На чортавым балоце.

***

Прачнуся пусты раніцой,
Ды толькі прыбавіць пакут рань.
Царква Магдалены Святой
Заве прыхаджанаў на ютрань.

Маркота, гаркота, жальба,
І дома не выседзець седню.
Нячутна анёлаў труба
Склікае людзей на абедню.

Рассыпана зор, як дажджу,
На небе, аздобленым чэрню.
Не знаю, чаму не хаджу
З бядою сваёй на вячэрню.

Напэўна, замнога віны,
І Богу таму не патрэбен.
Але не змаўкаюць званы –
Завуць і завуць на малебен.

## У ЗЗЯННІ МЕСЯЦА

*Паводле міфу, на паверхні поўнага месяца адлюстраваны момант, калі Авеля забівае Каін.*

Абміне маю сялібу
Стомлены вандроўнік,
Толькі вечарам у шыбу
Заскрабецца поўнік.

Ціха ён вісіць над хатай
Сумна-непрыкаян.
Там, у срэбным ззянні, брата
Забівае Каін.

Піша час у чорны сшытак
Кожны міг крывавы.
Ёсць на месяцы адбітак
Лютае расправы.

Прыглядзіся: вунь скульптура
Ката і ахвяры.
Вось чаму вісіць панура
Месяц бледнатвары.

Што ж, я госцю буду рады,
І ў акно, здаецца,
Поўнік, просячы спагады,
Весялей скрабецца.

***

Угрызе і пакусае,
Як сабака – верны друг.
Сонца росы выкрасае,
І звініць стары ланцуг.

Неба вечны гарапашнік,
Як галеў, так і галей.
Новы ранак за ўчарашні
Не святлей, не весялей.

Угрызе свая бядота,
Пакусае смутак свой
І крумкач з таго ж балота
Пракрычыць над галавой.

Росы выпалі на травы
І туман плыве з канаў,
Грызучы ланцуг іржавы,
Выць сабака перастаў.

***

Выйдзі за селішча, выйдзі на поле,
Выйдзі на выган руды.
Чайкі там жаляцца, стогнучы з болем,
У прадчуванні бяды.

Колас грымотаў не выснiў, не выспаў –
Жыта працяў сухавей.

Край мой бядовы, на багнах, ля выспаў
        Ты і не жыў шчаслівей.

Белыя чайкі кідаюцца з плачам
        У хмызнякі і карчы.
Белыя чайкі, пад сонцам гарачым
        Як вам і чым памагчы?

Выйду за селішча, выйду ў жытное,
        І спадзявацца дарма:
Неба загусла, вісіць, бы шкляное,
        Хмараў няма і няма.

Край мой гаротны, на высахлым полі,
        Сам змардаваны зусім,
Як жа хачу я найлепшае долі
        Людзям і чайкам тваім!

***

Пазнаю ландшафты і пейзажы –
Тыя, што з маленства помніць зрок.
Дужа ў сосен выгляд нехлямяжы,
Хоць, здаецца, і падрос барок.

Ведаю: не вернецца дзівосны
Даўні ранак з пеўчаю зарой.
Тыя самыя, канечне, сосны,
Ды чамусьці сумны ў іх настрой.

У лясах, што аж да небакраю,
Нехта тут блукае ўжо другі.

Стану [redacted] на выспе – пагукаю
Сам сябе, вясёлага, з імгі.

Выйдзе ён, зняможаны, суровы,
Уздыхне, на свет зірне прасцей,
Бо ў ландшафтах і пейзажах новых
Чорныя адценні ўсё гусцей.

***

Ля бярозкі счарнелай
На душы запякло:
Апусцела, згалела
І Малое Сяло.

З ветрам коцяцца хвалі
Непакошаных траў.
Сваякі не пазналі,
Іх і я не пазнаў.

Перапёлкі спякотай
Не крычаць наўздагон.
Цішыня і маркота,
І – павышаны фон.

Высякаюць лясіны,
Зноўку ставяць крыжы.
І гараць успаміны
Як сухія лаўжы.

Ды вярнуць немагчыма
Год маіх маладых.

За смугою, за дымам
Цяжкі вырвецца ўздых.

Моўчкі журыцца хата,
І бярозка мяне
Праўдзе вінавата
І хусцінкай махне.

## ДАЎНЯЯ ПЕСНЯ

Праз гады, праз далягляды,
З пашы зажаўцелай
Раптам, поўная спагады,
Песня даляцела:

"Ой, кароўкі йшлі з дуброўкі,
Авечачкі – з поля.
Плача маці па дзіцяці,
Што ліхая доля".

Хто пяе – не прыгадаю,
І не помню словы.
Ціха стала каля гаю,
Сумна – ля дубровы.

Гэткі ў песні, як пачатак,
І канец, няйначай:
На прыволлі ходзіць статак,
Плача маці, плача.

***

І лета, і сонца ў зеніце.
Ці ж вып'еціца смутак да дна?
На спелую ніву зірніце:
Там сувязь стагоддзяў відна.

Дарожка праз жыта крутая.
Сляды капытоў на жарстве.
Трывожная песня ратая
З-за дымных разлогаў плыве.

І слухаюць песню валошкі,
І стала суцішна кругом.
Яшчэ паўглядаюся трошкі –
Убачу матулю з сярпом.

Вось дождж нахапіўся імкліва
І пчолак загнаў у вулей.
Гамоніць, хвалюецца ніва,
І сэрцу майму весялей.

## ЛЕТНІМ НАДВЯЧОРКАМ

Сырэй трава і ружавей аблокі,
Даўжэй і мой на стомных вёрстах цень.
Яшчэ не вечар з сейвам зор высокіх,
Але даўно ўжо і не белы дзень.

Свой кубак неба з сіняе эмалі
Хачу дапіць і – думаю – змагу.

Разбудзіць гром людзей, што задрамалі,
І я яго пачую праз імгу.

Мой сіні кубак дождж налье дапоўна,
Бо і душа расплёскана не ўся.
Вунь промні сонца хіляцца чароўна
Да вёрстаў, мне сустрэчных, наўскася.

Свяціцца будзе аж да апаўночы
Агонь зары, што легла ўпапярок.
Яшчэ ж і цемра не шугае ў вочы,
Але і сонца ўжо не слепіць зрок.

## ХРАМ

Туман прападзе раніцой,
І стане пяшчотна вачам:
З любоўю, з бядой і віной
За вёску іду, як у храм.

Сам час тут у пашапку ніў
Малітву святую збярог.
Асірыс на поле ступіў –
Бог зерня і вечнасці Бог.

Старчма не стаяць каласы,
Панікшы ў паклоне зямным,
А лубін блішчыць ад расы –
Суквецці, як свечкі, над ім.

І звон дакаціўся здаля,
І ветрык прыблудны заціх.

Спраўляе малебен зямля
Па ўмёрлых аратых сваіх.

## ЖНІЎНЫЯ ЗАРНІЦЫ

Здаецца, хтось запалкамі зачыркаў,
І цемра ўжо трапечацца ў абшары,
І жыта ў цішыні чароўнай зырка
Азорваюць зарніцы-хлебазары.

Расхрыстана пасля працяглай спёкі
Навокал дрэмле жнівень жыццядайны.
Мне зразумелы гул вякоў далёкі,
Адкрыты мне жывой прыроды тайны.

Зарніцы ў жыце лашчацца і ціха
Грамы гуляюць дзесьці самапасам.
У гэты міг душа, што знала ліха,
Гатова зліцца з вечнасцю і часам.

Шалеюць сполахі над нівай з краю,
Цякуць хвіліны, каб застацца ў зерні.
Іду ў сутонь і проста назіраю
Нябесных сіл таемны бляск вячэрні.

Адтуль, з вякоў, чуваць, як мелюць жорны.
Хай будзе хлеб! І чыстыя крыніцы!
Відаць, таму начамі ў жнівень зорны
Аж давідна трывожацца зарніцы.

***

Сон мне прысніўся жахлівы:
Быццам гарыць збажына,
Толькі ж бязлюдныя нівы –
Хоць бы душа тут адна.

Жыта згарэла, і волка
Сцелецца ў далечах дым,
І на мяжы перапёлка
Плача над горам сваім.

Ранкам усход чырванее.
Чэзне туман пакрысе.
Воддаль бярозкі, як жнеі,
Гуртам бягуць па расе.

Будуць і жніўныя песні,
Будзе і чарка ўдагон.
Згінь, прападзі, не ўваскрэсні,
Страшны, жахлівы мой сон!

***

Там, за вёскай, дзе жнівеньскі морак,
Серабрыста імжыць зарапад,
І душы весялей паміж зорак
У самоце блукаць наўздагад.

Як ні горка, у лёсе адпетым
Я ратунку сабе не прашу.

Паміраюць старыя каметы,
Што казаць пра якуюсь душу.

Ёй застаўся спадзеў невялічкі
Чуць свой боль, ідучы па лязу.
Бачу: падаюць, падаюць знічкі,
І змахну, уздыхнуўшы, слязу.

***

Помню, люблю і шаную
Тыя груды і яры,
Дзе на кашулю льняную
Капалі кроплі зары.

Глянь за гадоў павалоку
З рыпам калёс і ступіц –
Выпі ружовага соку,
Ранку на промень ступі.

Далеч асвечана тайнай
Жыта ў паклоне зямным.
Гэтай карціны звычайнай
Там, за смугой, не глядзім.

Сёння з красы чараўнічай
Бегчы б у роснай траве,
Толькі ўжо поле не кліча,
Толькі ўжо даль не заве.

Мала і скутку, і плёну –
Хочацца воўкам завыць,

І на кашулі – не з лёну –
Плям крывяных не замыць.

***

Хачу дажджу! Гарачы дзень,
І сэрцу млосць ад перагрэву,
І не пад сілу кінуць цень
Былой жуды сухому дрэву.

У ім агонь не згас яшчэ,
Хоць лісце знішчыла спякота.
Дасюль пячэ яна, пячэ
Несакрушальная гаркота.

Без лісця чарнатой галін
Падобна дрэва на пачвару.
Сярод спякоты я адзін
Пра лепшы дзень ужо не мару.

Хачу дажджу! Пад шум вады
Заззяюць вербы ды рабіны,
І мне лягчэй спраўляць тады
Наканаваныя журбіны.

***

Каля акна свайго, расхваляваны,
Пакуль уднее, ціха пасяджу.
На непагадзь старыя ныюць раны
І чуцен лопат цёплага дажджу.

Гром крактануў за выспамі далёка.
Маланкі крэсляць неба наўскасы.
Хай дождж ідзе, бо зацяжная спёка
Паліла ў злосці нівы і лясы.

Не спіцца штосьу гэтай цемры млоснай.
Дыхне свяжак, ледзь форткі прачыню.
Хай крэкча гром, бо слухаць невыносна
Задушліва-густую цішыню.

Гарэлі б у акне маім Стажары
І месяц белы кланяўся б чалом,
Але плывуць, плывуць па небе хмары –
І дождж ідзе, і глуха крэкча гром!

***

Конь світання белагрывы
Скача сонцу насупроць,
І на бег яго імклівы
Не накінута аброць.

На дварэ пасля бяссоння
Кружыць хмельна цішыня.
Не хачу, аднак, сягоння
Бачыць белага каня.

Усю ноч ён ля дубровы
Застаяўся без аўса.
Звонка цокаюць падковы –
Толькі пырскае раса.

Ці то праўда – конь рэальны?
Ці то зрокавы падман?
Сонца грае, і світальны
Распаўзаецца туман.

Праясняюцца абрывы,
Балацянкі і груды.
Ні каня, ні белай грывы –
Толькі мокрыя сляды.

***

І порсткі дождж, і гулкі гром,
І кані плач за бродам –
Усё не месціцца ў аб'ём,
Які дала прырода.

Кусацца хоча нейкі гад,
Аж лезе ён са скуры.
Калі ў хмурынах далягляд,
Тады і я пахмуры.

Плюхоце, так, як і мане,
Не рады люд вясковы.
Яшчэ павысяцца ў цане
Даверлівыя словы.

Хоць дождж не лье і гром заціх,
Гляджу на рэчы строга:
Ці сэнсу малавата ў іх?
Ці сэнсу ў іх замнога?

Чакаю – сонца прынясе
Палёгку адвячоркам,
Ды каня на рачной касе
Зноў дзесьці плача горка.

***

Нешта даўняе шукаю –
Дзень мінуў і век міне.
Два вузлы русалка з краю
Завязала ў жыцце мне.

Быць вясёлым і шчаслівым
Пад канём і на кані.
Плакаць часта ў хвалях нівы –
Лёс, аднак, свой не кляні.

Развязаць спрабую змалку
Вузел першы і другі.
Яснавокую русалку
Не разгледзець з-за смугі.

Поўны скрушных чараў далі,
Дзе хаджу, зусім не злы.
Жыта зжалі, жыта зжалі –
Засталіся два вузлы.

***

Жаўрукі, жаўрукі,
Вас было столькі многа:

Залатыя званкі
Цэлы дзень над аблогай.

Песню чуў трактарыст
І скародзіў умела.
Песню чуў гарманіст,
І душа весялела.

Жаўрукі вы мае,
Што за ліха настала?
Як мне вас нестае!
Як сягоння вас мала!

Шчодра сыпалі яд,
І ні песень, ні хлеба.
І – пусты далягляд,
І – маўклівае неба.

## ПАЛЯВЫЯ СЦЕЖКІ

Леглі сцежкі палявыя,
Каб і я сюдой хадзіў,
Дзе дубы, як вартавыя,
Сцерагуць жытоў разліў.

Як ісці – ісці наперад,
Можна, зрэшты, і назад.
Не падкосіць ногі верад,
Не павернуць дождж і град.

Жыта спее, і, панылы,
Не хадзі тут паначы.

Дзіўна: поля старажылы –
І дубы, і крумкачы.

З дубальтоўкай паляўнічай
Чорны цень падсцеражы.
Перапёлкай поле кліча
Каля гаю, на мяжы.

Бачу сонечныя клёны
І бярозак чараду.
Не патрэбна ў гай зялёны,
Дык у гай і не пайду.

Хоць я клёнам быў бы рады,
Як і рослай збажыне,
Не даруюць ціхай здрады
Палявыя сцежкі мне.

***

Спякотнае лета
На ўзлёце, на ўздыме,
І кружыць планета
У смозе і дыме.

Аб голадзе былі
Жывуць у натуры:
Дзе торф асушылі,
Там пыльныя буры.

Сшыў бусел дарэмна
Фрак з чорнаю фалдай.

У кузні падземнай
Б’е Жыжаль кувалдай.

Пры кожным удары
Спякота люцее:
У лесе пажары
І поле жаўцее.

Зямля без гарэзій,
У смутку-самоце.
І стронцый, і цэзій
На ўздыме, на ўзлёце.

***

З алешніку чуеццца звон ручая
І песня заранкі густая,
Наводшыбе вёсак зямля нічыя
Здзічэлай травой зарастае.

З вясны зацяжныя дажджы на дварэ
І рэдкае сонца ў нябёсах.
Ды зноўку вандроўнік у рукі бярэ
Свой мудры і стомлены посах.

Павіслі ў паветры туга і адчай,
І пах запусцення гаркавы.
Заранка прыціхла, а звонкі ручай
Прапаў у абдымках канавы.

Насустрач цвітуць то палын, то быльнёг,
І нехта пратэпаў старэнькі.

Ды хлеба здарожаны посах не змог,
Не смеў папрасіць у кавенькі.

***

Хоць на міг, хоць у сне бесталковым
Ты, збалелая памяць, закінь
У туман паўз лугі і дубровы,
У дрыготкую жніўную сінь.

Уздыхнецца там вольна і смела
І сябры прыбягуць да мяне,
І дзяўчына хусцінкаю белай
З-за чырвонай рабіны махне.

Хочаш – сена ў пракосах падгрэбай,
Хочаш – падай з абрыву старчма,
І ўздыхаць ля магілак не трэба,
І яшчэ тых магілак няма.

Мо і праўда, што ў сне да знямогі
Ноч блукаў я між летняй красы,
Бо прачнуўся, і босыя ногі
Аж пякуць ад сцюдзёнай расы.

***

«Хай будзе хлеб!» – казаў мудрэц стары,
І тут няма біблейскае маралі.
У вёсцы сёння доўгажыхары –
Ратаі, што змала зямлю аралі.

Ару і я надзел свой многа дзён,
І ёсць мне хлеб, ахвяраваны вёскай,
Хоць ворыва акравачак відзён
І цаліны ўсё меншая палоска.

***

Раптоўны дождж, і я наскрозь прамок.
Буянства траў паўсюль на схіле лога.
Ды фарбы лета мой не цешаць зрок,
Бо чарнаты ў жыцці было замнога.

У лівень той, што прашумеў, густы
Назад ужо не ступіш ані кроку,
І адчуванне шэрай пустаты
І за спіной, і ўперадзе, і збоку.

Сярод балючай чырвані рабін,
Пад асвяжальнай чысцінёй блакіту
Сягоння я ішоў бы не адзін,
Калі б вяртацца льга было з нябыту.

Аднак іду, і – лог перад вачмі.
Гляджу: на медуніцу села пчолка
І ў векавечных колерах сямі
Над логам зырка шчодрыцца вясёлка.

***

Смуга вісіць і дым густы
Паўзе вячэрняю парою.

Я не хачу паліць масты –
Яны ж гараць услед за мною.

Гараць пралёты без агню,
І тлеюць берагі сухія,
І я збаяўся ўпершыню:
Перакрывае шлях стыхія!

Не павярнуць ужо назад,
Але і ўперад не прабіцца:
Дыміўся ззаду далягляд –
Цяпер з усіх бакоў дыміцца.

***

Хоць пакутай думкі ўсе прасяклі,
Засынання прыйдзе міг няўлоўны.
Сны мае – дзівосныя спектаклі,
Дзе заўсёды я герой галоўны.

Што ні ноч – бягу праз дождж панурый,
То стаю на коўзкай строме з краю.
Сняцца мне ці ўласныя хаўтуры,
Ці – часцей – па некім сам рыдаю.

То іду з карзінаю ў сасоннік,
То лячу я над зямлёй убогай.
Хоць бяры ў якой бабулі соннік
І разгадвай сны свае з трывогай.

Сплю між каляровых дэкарацый,
Дзе глядач, як і герой, той самы,

Ды часцей, чым царскія палацы,
Ставіць ноч трагедыі і драмы.

***

Што ж, прысядзем, шчыра пагаворым
Ці праплачам да світальных зор.
Закрычалі жураўлі над борам,
Але іх сівы не чуе бор.

Сёння нас тут, нелюдзімых, двое.
Разам усміхнемся неўпрыкмет,
Адвячоркам на грудзях у хвоі
Месячык павіс, як амулет.

Ці то ўздых мой горкі і адчайны?
Ці то ўскрык банальных жураўлёў?
І няма ў тым абсалютнай тайны,
Што сюды цябе я сам прывёў.

У бары, перад нямым Сусветам,
Я сяджу, а дзесьці побач ты.
Не прыкрыцца хвоі амулетам
Ад пілы, маланкі і слаты.

Што ж, размова будзе ў нас цяжкая.
Адгукніся толькі, дзе ты знік?
Але моўчкі побач ён блукае –
Ці то цень, ці лёс мой, ці двайнік?

# ЛЕСЕ РОДНЫ

Зажурыўся дружа мой зялёны,
Блага і асінцы, і вярбе.
Ладзяць лесаводы аўкцыёны –
Прадаюць на корані цябе.

Лот – і вось ужо няма дубровы,
Лот – і пнямі засвяціўся гай.
Ну, вядома: час такі бядовы,
Лесе родны, выжыць памагай!

Крыўдна, што ля Лані і на Шчары
Скончыцца запас твой залаты,
Ды яшчэ бясконцыя пажары
Прыбаўляюць столькі чарнаты.

Караед, пры гальштуку ці з бантам,
Загубіў дзялянку не адну.
Зрэшты, для рвача і спекулянта
Бор гадуе гонкую сасну.

Як балююць з незнаёмым шармам
Долар, фунт і нават марны злот!
Дружа мілы, прыйдзе час, што дарма
Д'ябал возьме твой апошні лот.

# ЗГАДКА АБ УРАГАНЕ

*Любі дзіця, як душу,*
*а трасі, як грушу.*

Прыказка

Груш было б! Ды вось такая справа:
Ураганам грушу разадрала.
І ляжыць у бабы над канавай
Лісцем прыцярушанае рала.

Груша што! Ажно пад Целяханы
Паласою леглі буракомы.
Стук сякер там сёння несціханы,
Хоць наогул земны лёс вядомы.

На мяйсцох, як сказана ў Пісанні,
Будуць голад, жах і землятрусы.
Страшна, крыўдна, ды нашто літанні?
Выжывуць і ў бедствах беларусы!

Вось жа груша. За віну якую
Бура жорстка грушу пакарала?
Трошкі пасяджу я, памяркую –
Распілую скручанае рала.

Дрэва разламана да паловы:
Сочыцца яшчэ жывая рана.
Груш няма, ды будуць бабе дровы –
Шчодры дар ад бацькі Урагана.

***

Цёпла бор сустрэў
Горкага прыблуду.
Тут, між гонкіх дрэў,
Пра бяду забуду.

Верас, дзеразу
Апыляюць пчолы.
Высушыў слязу
Ветрык невясёлы.

Я брыду, як лось,
З торбаю пустою.
На выжарах штось
Многа сухастою.

Бор піле міргне
Тут, на расцяробах.
Прыціскае, гне
Вечная жалоба.

Аднаму чаму
Столькі бед адразу?
Думаю думу,
Ды няма адказу.

У бары вакол
Горкі пах жывіцы
І счарнілі дол
Чорныя чарніцы.

***

На здзіўленне чалавеку,
Галасіста-звонкі лес
Па крутой калейцы веку
Прашуміць, нібы экспрэс.

За зялёныя вагоны –
Гай, дуброва, шчыры бор,
І гады, як перагоны,
Адлятаюць у прастор.

Станцыі няма канечнай –
Дзе Палессе, дзе Сібір!
Лес у даль імчыцца вечна,
Ты ж – часовы пасажыр.

***

Маладосць па боскай волі
Плача каняй у трысці.
Нам туды цяпер ніколі
Ні даехаць, ні дайсці.

На маім ляжыць сумленні,
Што бываеш у журбе.
Чую, бачу ў аддаленні
Маладзенькую цябе.

Кіламетрам, пэўна, сотым
Я на голас твой бягу,

Ты ж праз гаці і балоты
Уцякаеш за смугу.

Выбачай за гэту мрою:
Дурань быў і дурань ёсць.
Але ж там, за сінявою,
Плача наша маладосць.

## БЕРАСЦЯНАЯ ГРАМАТА

Цудам ацалелі ў тоўшчы часу
На бяросце колькі гнеўных слоў:
“Прынясі сароцу мне і квасу,
Бо наб’ю, калі прыйду дамоў!”

Продак, мабыць, выкарчоўваў ляда,
Сеяў жыта – вось і выжыў край.
Забялеў перад маім паглядам
Грамат берасцяных цэлы гай.

Вунь будан. І бессань усю ночку.
На бяросце напішу ў журбе:
“Прынясі мне, мілая, сарочку –
Гэтак бачыць я хачу цябе!”

## СПРОБА АЗАРЭННЯ

*Жонцы Зоі Іванаўне*

Ёсць у гэтым змроку азарэнне,
Пры якім забудзем злыбяду.
Ты, маё нябеснае стварэнне,
Прабачай, што побач я іду.

Сам сабе загадваю: не падай
І свяцілам вочы не мазоль.
Крыўдна ўсё ж – ні ласкай, ні спагадай
Ты не здымеш векавечны боль.

І таму няхай больш не цямнее
Зорка лёсу за імглой густой,
І таму няхай зноў разаднее
Там, дзе ты сам-насам з пустатой.

Мне ж хапае аж да ачмурэння,
У аспідны ўгледзеўшыся змрок,
Гэтай ціхай спробы азарэння
Ды і спробы шчасця хоць глыток.

***

Не чуваць багоў кахання,
Зніклі іхнія ганцы
Дзесьці ў водблісках світання
З шалам дня напрыканцы.

У жытное, як бывала,
Не пабегчы цераз гаць.

Што юнацтва цалавала –
Будзе старасць праклінаць.

Ты была і ёсць царэўна,
Дык не жалься і не плач.
Нашай птушкай шчасця, пэўна,
Стаў нахрапісты крумкач.

Не забыта, што пражыта,
Што сагнуць магло ў дугу.
Не бяжыш ты цераз жыта,
Ды і я ў ім не бягу.

Час на нас глядзіць нядрэмна
З-пад цярновага вянца,
І чакаць ужо дарэмна
З весткай радаснай ганца.

***

Сышлі снягі, і сок цячэ
З бяроз на сонечным узлеску,
Ды , мусіць, не знайсці яшчэ
Табе блакітную пралеску.

Прыйшоў са святам сакавік,
Хаця святла і небагата.
Заўважны ў свята Божы лік,
Бо гэта й Багамаці свята.

Шкада: няроўна дзеліць лёс,
Што ў летуценнях ясназорны –

Шчаслівым даў блакіт нябёс,
Гаротным выпаў колер чорны.

Народжаную ад Хрыста,
Цябе я моўчкі пашкадую.
Твая ў цярноўніках вярста
Лягла, як помню маладую.

Нічым не прасвятліць бяду,
Ды вось па сонечным узлеску
Хаджу і хоць адну знайду
Табе блакітную пралеску.

***

З тваіх лугоў за дымнай павалокай
Не рваў я кветак, не насіў табе,
І вось цяпер, у сталасці глыбокай,
Дакор праз даль запознена скубе.

У шале фарбаў каля вербаў ніцых
Тых летніх красак не злічыць усіх,
Ды як забыць мне водар медуніцы
З пялёсткамі пад колер губ тваіх!

Было, сплыло – гляджу праз даль з журбою,
Бо ў гарчаках на чэрвеньскай слаце
Там, у лугах, якраз для нас з табою
Даўно ўжо медуніца не цвіце.

***

Дзівакі, хто спявае рамансы.
Ці натхнення нястрымны парыў?
Тут жа час даў апошнія шансы,
Каб жыццё я тваё не журыў.

Навaліліся спёка і стома.
Сніцца край наш, забыты амаль.
Там цябе я сустрэў, ды, вядома,
Не дарыў гэты чорны твой шаль.

Весялей, калі пройдзе навала,
Дождж шуміць, упадаючы ў транс.
Нават дзіўна, каб сэрца спявала
Недапісаны мною раманс.

***

Ты прыбегла, дзякуй Богу,
Хоць у сон, і то мне май.
Пакланіўшыся парогу –
Весялей пераступай.

Кінеш ты пагляд не скосы
І памолішся на кут.
Паблукалі нашы лёсы
Скрыжаваннямі пакут.

Бледны цень на фотаздымках
Дзён смугой завалакло.
Я не знаў цябе ў абдымках,
Бо цябе і не было.

Пойдзеш ты, і за табою
Пойдзе светлы сум начы.
Мне ж назаўтра гэту мрою
Аднаму не зберагчы.

***

Між бярэзін белакорых,
Далібог жа, нехта ёсць!
Ці даўно пры спелых зорах
Гарцавала маладосць?

Марна спудзіў каля гаю
Год пражытых чараду.
Там цябе я пашукаю,
Ды, вядома, не знайду.

Бесклапотна, нібы пташка,
Знікла ты ў чужой вясне –
Недатклівая манашка
З кофтай, змятай на спіне!

Адгукнецца даўняй стратай
Між бярэзін маладосць.
Дзе ж тут ведзьміная хата?
Буду ў ёй жаданы госць.

***

І нялёгка, і няпроста
Заблудзіцца ў тыя дні,

Дзе юнацтва, як бяроста,
Ярка пыхнула ў агні.

Я гляджу цяпельца дбала,
І праз дым ад цыгарэт
Полымя намалявала
Гэты вогненны партрэт.

Светла вусны, думна вочы
Праступілі з цемнаты,
Ды адразу твар дзявочы
Сплыў назад у змрок густы.

Сумна зноў цякуць хвіліны,
Сыпануў сняжок на скронь,
Толькі грэюць успаміны
Лепш за полымны агонь.

***

Ад хмары ўцякалі – даўно ўсё ж было!
І гром, і маланкі часінаю шарай.
Ды вось і жыццё ўжо, здаецца, прайшло
Пад тою сівой і дажджлівою хмарай.

Грыміць і цяпер, як грымела тады –
То Божанька сварыцца ў гневе праз далі.
Напэўна, таму нам хапіла жуды,
Што Божанькі голас мы чуць не жадалі.

Грахі я не ўмею замольваць свае,
Дык ты памаліся душою збалелай.

Гляджу: то калюгі, то град растае
На сцежках, дзе наша каханне шалела.

Ад грому ўцякалі – было так даўно!
І божы быў знак, што не ведаць нікому.
Не раз і сягоння трасецца акно
З таго, напатканага лёсамі, грому.

***

Не кажу табе: “Пайшлі на фэст”,
Хоць народу там ужо багата.
З-за царкоўных брам звон-дабравест
Праплывае і над нашай хатай.

Звычай ёсць на Спас і на Пакроў
Сустракацца з добраю раднёю –
За здароўе піць гаспадароў
І здзіўляць гасціннасцю сваёю.

Можа, хто зайшоў бы і да нас –
Асушылі б слоік трохлітровы,
Але горкі наш мядовы Спас
І ўзяліся шэранню Пакровы.

Пасядзім жа ціха ля вакон.
Вунь ужо брыдуць суседзі з фэста.
І не моўкне блізка пераззвон
Зацяжнога ў смутку дабравеста.

***

Як шкада дзяўчынку тую,
Што, даверыўшыся мне,
Бегла ў восень залатую,
Каб апомніцца ў вясне!

Бегла і яшчэ не знала:
Гэта ж іменна са мной
Шчасця мець ты будзеш мала,
Заручыўшыся з журбой.

Іклы лёс не раз вышчарваў
І хапіла ўсмак бяды.
Часта бачу: паміж барваў
Шэрхнуць мокрыя сляды.

У лісцёвай завірусе
Ты бяжыш там па імжы.
Я ж прашу сягоння ў скрусе:
– Міма, міма прабяжы!

***

Нізка попельныя хмары
І ўжо блізка халады.
Завядзе твой смутак шары
Хоць у нетру, хоць куды.

Снег ахутае глыбокі
Бураломы і карчы.

Зарыпяць падвечар крокі,
Мне палёгку несучы.

Хоць у смутку, ды ў даверы
Ночы ўзімку каратаць.
Зачыняй жа шчыльна дзверы,
Каб завей не напускаць.

Нізка хмары, вецер свішча,
Шары смутак твой не знік.
Чуеш? Злазячы з гарышча,
Клямкай бразнуў дамавік.

***

Рыцарамі клёны
Між бяроз-прынцэс.
Толькі ж быў зялёны –
Стаў аспідным лес.

І такая ціша,
І такі спакой,
Ветрык не калыша
Нат іголіцу хвой.

Але сэрца ные
І адчай гняце.
Ледзь чутны начныя
Гукі ў пустаце.

Лось імшары месіць.
Скрэндзіць ваўкалак.

На дарогу, месяц,
Пасвяці, аднак.

Воблакі апалі
На счарнелы лес.
Рыцары прапалі
І – няма прынцэс.

***

Шукаю дзверы. бо сюжэт
З даволі сумнаю канцоўкай,
І хісткі ў дыме сілуэт,
Але аплачаны гатоўкай.

Ці выйду сам у цішыню.
Ці з Божай ласкаю, а, зрэшты,
Я і шынкарку не віню.
Якая даць не хоча рэшты.

Каля дзвярэй, дзе ўжо стаю,
Убачу, крэўна вінаваты,
Цябе, самотніцу маю, –
Не правядзеш хоць раз дахаты.

Ганебны тып з сузор'я «Леў»
Пляваў на знакі Задыяка.
Агарак свечкі не датлеў –
На дым увагі аніякай.

Закончыцца, як ёсць, хлуснёй
Гульня ў жыццё, ды немагчыма

Хоць пад канец са злосці ўсёй
Тут бразнуць роспачна дзвярыма.

***

Здань бяды адстане
Там, на павароце,
Хоць не перастане
Жыць душа ў самоце.

З горкаю віною
І без пакаяння
Цяжка пад густою
Цемрай да світання.

Бляск маланак злева,
Ляскат грому справа.
Адшуміць залева –
Аж бурліць канава.

Я іду, пануры,
З марным умалотам:
Сухавеі, буры
Там, за паваротам.

Песня ж не дапета
Ні ў дразда, ні ў кані.
Азірнуся з лета,
Агрызнуся здані.

***

Будзь жа там, за летам спелым,
Не плюхота, не імгла,
Хоць пад гаем азалелым
Хмара далеч аблягла.

Я малю, прашу ў літанні,
Каб у восені глухой
Хоць бы зрэдку на світанні
Мне забыць пра смутак свой.

Ці лясной, ці палявою
Сцежкаю брыду ў цішы,
Будзь жа там, за сінявою,
Дзень прасветлы для душы!

Што чакае – знаць не знаю,
Ды пакуль і ў леце тут
Месца дадзена мне з краю,
Дзе аж млосна ад пакут!

***

На яблычны Спас уздыхну я ў самоце:
Дарма, што на цэрквах бадзёраць званы,
Ды жнівень муштруе буслоў на балоце –
Ляцець ім далёка, знікаць да вясны.

Гаркотны ў бярэзніках чуецца клёкат.
Дзесь яблыкі свенцяць жывою вадой.

Наперадзе восень – ляцець нам далёка,
Услед за буслінай знікаць чарадой.

Між лісцяў скрозь колер чырвона-ружовы:
Даспелі сінап, і шафран, і ранет.
Даспелі мае набалелыя словы –
Ляцець ім высока, знікаць неўпрыкмет.

На яблычны Спас на ўсю восень рудую
Анёл, мой ахоўнік, прынёс неспакой,
Але не сябе ўсё ж – буслоў я шкадую:
Ляцець ім далёка, знікаць за смугой.

***

Вечар, як вецер, празрысты і свежы
Цэдзіць лагоду, і дыхаць лягчэй.
Вецер, як вечар, што ў сіняй адзежы,
Дзесь у лістоце журчыць, бы ручэй.

Зорыцца неба, і вось саматканы
Млечнага Шляху паслаўся ручнік.
Свету ўладыка, з душой паяднаны,
Вытра ім заўтра свой божасны лік.

Думаць ці трэба аб страчаным нечым?
Каецца грэшнік і плача святы.
Вечар ды вецер! І меней сінечы –
Болей, заўважна, між дрэў чарнаты.

Помню, чаго я стаю ў засмучэнні,
Знаю, аднак: тут яны ні пры чым –

Вечар у жнівеньскім зорным свячэнні,
Вецер у ціхім журчанні начным.

***

Журба мая, з душой незагрубелай
Жыву ў лясах, і я тут не адзін:
То з-за бяроз махнеш ты хусткай белай,
То выскачыш цыганкай з-пад рабін.

І больш, павер, няма ніякіх звестак:
Адкуль, чыя – ці пана, ці раба?
Цнатліва-сарамлівая нявеста,
Дай вусны мне, бо ты – мая журба!

***

Гэты поўдзень жыццёвае прозы:
Бор гадоў быццам спляжыў агонь!
І стаю, як ніколі, цвярозы,
І гляджу без надзей у сутонь.

Можа, песня яшчэ недапета,
Хоць мяжа на шляху пралягла.
За плячыма – спякотнае лета.
І наперадзе – золь ды імгла.

Сёння – самы развaжлівы одум,
Сёння – самы шчымлівы дакор.
Ды яшчэ слаба ўецца курадым
Там, дзе пожар ішоў цераз бор.

***

На строме лета кветак болей жоўтых –
Самоты колер, мучыць ёй мяне,
І ўжо няма і следу міражоў тых,
Якія ў светлай мрояцца вясне.

Там, у садах, ад квецені бухматых,
Шчаслівы быў я, нібы навасёл,
І блізу ў снах пабудаванай хаты
Крыляў душы расхрыстанай анёл.

Я ў ёй не жыў, у хаце снежна-белай,
Яна сплыла, як прывід, у начах.
Без кветак сініх далеч знелюбела –
Адны скрозь жаўтацветы на грудах.

Няхай цвітуць – усё адно раздзета
Самота дрэў, і між прыціхлых ніў
Знікаюць мроі, хоць на строме лета
Шкада мне хату, што вясной сасніў.

## ДАРОГАЮ ПРОДКАЎ

Туды, дзе ад Бога надзелы,
Дарогаю продкаў ісці –
Натоўп мой даўно парадзелы,
Жалобней і каня ў трысці.

Дарога наўсцяж палявая
Відочна вядзе пад абрыў,

Ды жнівеньскі пах каравая
Няўтольны такі ж, як і быў.

Наогул сабралі нямнога,
І час, што мінуў, ні пры чым.
Пыліць не старайся, дарога,
Прыляжам наўзбоч, памаўчым.

Вятрок, пакачаны ў саломе,
На ласку яшчэ не скупы,
Ды марна ў дарогі на зломе
Лічыць верставыя слупы.

Праз церні і небасхілы
Аблокі плывуць, як гады.
Не смейся, анёл вальнакрылы,
З маруднай і цяжкай хады.

Дарога – дзе крыва, дзе прама
Дратамі звініць у нудзе,
І той, хто за мною, таксама
Дарогаю продкаў ідзе.

***

Знікаюць выраі самотна,
Ляцяць услед мае гады.
Як шмат дарог, дзе незваротна
Пакінуў я свае сляды!

Хадзіў і борам, і дрыгвою,
Аднак прыйшоў, куды хацеў.

За цішынёю палявою
Бучнее жніненькі пасеў.

Вось хутка дождж без грому, ціха
Засцеле даль імглой густой.
На свеце шмат я зведаў ліха –
Цяпер нацешуся слатой.

Здаецца час наўздзіў марудным,
Аднак даўно і бор сівы,
Дзе трубяць з выраем прыблудным
Гады мае, як журавы.

***

Час маёй журбы не за гарамі:
Кружыцца між голля жоўты ліст.
На рабіне зыркімі начамі
Астывае золата маніст.

Сню з дзяцінства жніўны, без снапоў, дзень.
Бачу жар брусніц і жураўлін.
З крыкам пралятаючы на поўдзень,
Забярыце боль мой, жураўлі!

Я пакуль жывы, і дзякуй Богу,
Дык не плачце, годы, мне ў душу.
Я ж буслоў, што рымсцяцца ў дарогу,
Слёзна аб тым самым папрашу.

***

На ўзмежжы верасня і жніўня
Яшчэ святлом яснеюць дні,
Калі пасля грымотных ліўняў
Дыміць ралля ўдалечыні.

Напэўна, песня недапета
У жураўлінай чарадзе.
Яшчэ і бабінае лета
Самотнай пражы не прадзе.

Рунеюць поля аксаміты,
Якія я люблю змала
Ужо з лугоў, імглой спавітых,
На верасы ляціць пчала.

Лясы густая засціць мораць
І дзікі голуб закрычыць.
Яшчэ і жнівень ласку дорыць,
Ужо і верасень гарчыць.

Вунь, мабыць, ластаўкай нясмелай
Мая трапечацца любоў.
Вось толькі сэрца адбалела,
Ды пачынае тузаць зноў.

Каліна сочыцца пяшчотай,
І чырвань – быццам з-пад ляза,
І апячэ, ужо не ўпотай,
Шчаку асенняя сляза.

***

Па багне лётаў басанож.
Ану іх, лапці ды аборкі!
Набраўся моцы: анягож,
Давай, жыццё, крутыя горкі!

Не абляцім, дык прапаўзём,
Але ж і горак тых замнога.
То схіл, то ніз, то на пад'ём
Вядзе жыццёвая дарога.

Свой несці крыж – не з плеч далоў:
Палёт між зорак немінучы,
Хаця і ў багне стрымгалоў
Ляцець прымусіць клуб гадзючы.

***

Не пілігрым – шукальнік ісцін божых,
Але і я займеў вандроўны чын,
Хаця ў натоўпе стомленых прахожых
Бадзяцца марна мне стае прычын.

Як падлічыць – то пройдзена нямнога.
Як без маны – то небагата нёс.
Заве кудысь душа, мая нябога,
Гудзе натоўп гасцінцам да нябёс.

Нібы гракоў на ніве разаранай,
Мінулых дзён я спудзіў чараду,

Шукаючы чагосьці апантана,
Хоць ведама: нічога не знайду.

Няхай з дажджу, няхай з марознай стыні,
Мільгнецца крыж – мяжы зыходнай стоўп.
Магілы там – сусветныя святыні,
І праглынуты вечнасцю натоўп.

## ВЕРАСНЁВАЕ

З грыбамі кошык – аднаму,
Другому – зерня ўкоптур меру.
Хіба ж я верасню свайму
З ягонай шчодрасцю не веру?

Рухомей непагадзь з-за хмар,
І коціцца па чарнатропе
Задум яшчэ гарачы жар,
Надзей ужо астылы попел.

Я не прастак зусім, аднак
Іду ў слату, бо ёсць патрэба
Нутром адчуць: усё не так,
Як нам прадпісваецца з неба.

У нас тут правілы свае,
І верасень не вінаваты,
Што грыб на корані гніе,
Што злак дзесь похапкам не зжаты.

***

Не ўсміхайся, Бахус:
Тут, дзе боль скразны,
П'яны я ад паху
Свежай баразны.

Пад лямеш з адвалам
Ляжа розны глум,
І – маіх нямала
Скрушна-горкіх дум.

Вараняк прарочa
Крыкнуў незнарок,
Ды няхай ляскоча
Гэты трактарок!

Годы, не кружыце!
Поле, не гані!
Мне хапіла ў жыце
Чорнай галаўні.

Суджаную плаху
Заарэм спярша
І паплачам, Бахус, –
Хмельная душа!

***

Спелага бору глухі і вячысты
Пошум сціхае, сягаючы зор.

Дзесьці ў начную аруць трактарысты –
Блізка ракоча ля бору матор.

Жыта пасеюць у верасні стылым –
Думаць аб вечным надзейней тады.
Падаюць зоркі, як слёзы Ярылы:
Небу таксама хапае нуды.

Слёзы Ярылы збіраючы ў словы,
Сам я знядоліўся, духам зачах.
З пошуму бору не станеш здаровы,
З чорнай раллі пацямнее ў вачах.

Поле, што будзе за ноч узараным,
Зерню абдымкі свае расхіне.
Тут, каля хвояў, затканых туманам,
Думаць аб вечным не хочацца мне.

***

Не ў сляпой пакоры, а ў цярпенні
Супакой, калі зашмат жарствы.
Нават дзіўна, што ў святле асеннім
Я такі маркотны і жывы.

Дні мае, аднолькава без назваў,
Шалясцяць пагодаю і ў золь.
Бог цярпеў і нам цярпець наказваў,
Ды не знаць, адкуль прыходзіць боль.

Бачу ў сціртах жоўтую салому,
Бачу далеч сінюю, як дым,

І таму так хочацца дадому –
У той час, калі быў маладым.

Несці боль свой праз гады і слоту,
Плуг узяў – не патрабуй мяча,
І дажджы не змыюць пазалоту
На крыжы, не скінутым з пляча.

***

Між узгоркаў даліны,
У далінах туман,
За туманам каліны –
Вераснёвы падман.

Наплываюць аблокі
У густой сіняве,
І нячутныя крокі
Па намёрзлай траве.

Ліст апалы на доле
Пакаціўся далей.
За ўзаранае поле
Смутак мой не святлей.

Пацалункі, абдымкі,
Ды нікога няма.
З-за туману, з-за дымкі
Выглядае зіма.

Над патоляй і скрухай
Праляцяць груганы.

Супыніся, паслухай:
Дзесьці плачуць званы.

Мне трывожна і горка
Між бяроз і ракіт,
Дзе каліны на ўзгорках
Стылы грэюць блакіт.

***

Напэўна, я так і звякую:
То рукі, то нос у чарніле,
І аркуш паперы, якую
Самотныя думы счарнілі.

Завуць на бяседу гулякі,
І льецца жывая бяседа.
Мне сябрам стаць можа ўсялякі,
Хто ночы бяссонныя зведаў.

Радкі, як разоркі, нядбала
Кладуцца на аркуш уранні,
Ды толку і радасці мала
У гэтым асеннім аранні.

І хоць сам сябе дакараю,
Душы, на згрызотах апеклай,
Аднойчы захочацца раю,
Але не захочацца пекла.

Век пройдзе за сіняй імглою –
Кляновы, бярозавы, вербны,

І ў страсе гулякі са мною
Завыюць на месяц вышчэрбны.

***

Кружыцца даўжэй за папярэдні,
З голькі адарваўшыся, лісток.
Паміж мной і вераснем пасрэднік –
Светлы гай, дзе звонкі кожны крок.

Колеры вятры перамяшалі
На палянах і над галавой.
Апускаюцца нябёсаў шалі
Ад цяжару хмары дажджавой.

Гай наскрозь прадзьме слаты дыханнем.
Вось яшчэ лісток зляцеў у хмыз.
То бярозы ў танцы з распрананнем
Велічны паказваюць стрыптыз.

Ды, пакуль абшары не намоклі,
На прагалах, між асін рудых
Верасня чуваць ласіны покліч
І здзіўлення ціхі мой уздых.

***

Пустата на прасёлку
Наганяе нуду.
Лета дзьмула ў свісцёлку.
Восень хныча ў дуду.

Руні светлыя руны
Толькі ўводзяць у зман.
Сцірты ў полі, бы шхуны,
Патанулі ў туман.

Слаў я доўга ці мала
Свой жыццёвы кілім?
Лета нервы матала.
Восень змучыць зусім.

Птушкі ў лёце паспелі
Акунуцца разок
У нябеснай купелі
З белай пенай аблок.

Хоць крычы, хоць галёкай –
Не прыходзіць настрой.
Лета дзесьці далёка.
Восень побач са мной.

***

Азалела чырвань на каліне,
Ды і дождж ужо не грыбасей.
Сёння з болем у пралётным кліне
Налічыў я толькі сем гусей.

Рэч не ў тым, што шэрыя нябёсы.
І не трэба сумных мне сустрэч;
Праплываў у крыўдзе жур бялёсы,
Ды маўчаў, і вось у гэтым рэч.

Тут, за Вязынкаю, на пагорках,
Дзе стаяць Купалавы дубы,
Як убачыў – уздыхнуў я горка:
Крыл узмах павольны і слабы.

Дай вам Бог вярнуцца без урону,
Ды крычы ж, важак, перад людзьмі!
Будзе сніцца мне цяпер да скону
Клін гусіны лікам да сямі.

***

Люблю шляхі і бласлаўляю гэту
Дарогу ў лес, што помню маладым.
Рабіны жар – прыкурвай цыгарэту,
Ды як пускаць рабіне ў вочы дым?

Я ведаю, чаму няма авацый –
Апалых лісцяў шоргат у цішы.
Шукаю свежых тут алітэрацый,
Ну, скажам, так: нуклідаў мурашы.

Яны, аднак, нябачна па дарозе
Паўзуць, і вечны іх кругазварот:
Ад тых баркоў, дзе спачываць у Бозе,
Да тых сяліб, дзе надта шмат згрызот.

Гарчаць шляхі, і ўжо згарчэлі словы,
І я між дрэў, дзе быў найлепшы госць,
Тырчу, нібы мурашнік адмысловы,
Заселены нуклідамі як ёсць.

## РАЗВОРВАННЕ БУЛЬБЫ

Ці гэта сон, ці наяву –
З лугоў вяду каня ў пастронкі,
І кружыць ветрык галаву,
За мной памчаўшыся ўдагонкі.

Нягоду восень падмане,
Напусціць раніцай туману,
І белы конь у баразне
Паверыць беламу падману.

Мой даўні вопыт, памажы
Вярнуцца да асноў прыроды.
Вунь і рабіна па мяжы
Сюды бяжыць паўз агароды.

Гарбуз ад золкай белізны
Халат накінуў паласаты.
Вывальваюцца з баразны
Картопліны, як парасяты.

Іду за плугам, бы сугней,
Што не аднойчы здрадзіў полю.
Калі б араць пачаў раней,
Дык, мабыць, выараў бы долю.

Ці сапраўды плыве туман?
Ці ў сне лагода і пяшчота?
Кароткі восені падман,
І зноў слата, і зноў маркота.

## НА АПОШНЯЙ МЯЖЫ

На мяжы, дзе асот і валошкі
Растапталі даўно капыты,
Прывыкаць пачынаю патрошкі
Да асенняй нуды і слаты.

Разбрыліся лагчынамі статкі,
І, хоць жур свой між іх разганю,
Не сагрэюць старыя апраткі,
І душы не цяплей ля агню.

Гэты дым, што сплыве на балота,
Загарчэў і зрабіўся гусцей.
Гэты дзень – ці суцешыць пяшчотай?
Гэты век – век магіл і касцей.

Не адплакана ўсё, не забыта,
Што пячэ, дык услых не кажы.
І стаю з галавой непакрытай
Пад імжой на апошняй мяжы.

***

Ні стагоў, ні сцірт, ні коп
За туманамі не відна.
Чарналес і чарнатроп
Пачарнелі ўжо аспідна.

У гаях рабін агонь
Стыне на вятрах марозных.

Лістападу чорны конь
Чорныя арэ барозны.

Толькі рунь цераз слату
Зелянее азалела,
Адцяніўшы чарнату,
Што да сэрца прыкіпела.

## ПУСТЭЛЬНІК

Голы лес у лістападзе,
Бо ўсяму свая пара.
Сумны водбліск у паглядзе
Ад вячэрняга кастра.

Вось і цягне па-старэчы
Косці грэць каля агню,
Нешта помнячы, дарэчы,
З вёсен тых, якія сню.

Цьмяна, смутна, невыразна
Бачу я сябе ў былым
То насмешнікам, то блазнам,
То гулякаю крутым.

Меў без ліку розных лікаў,
Але з іх, відаць, наўзгад
Час пустэльніка паклікаў
У прыціхлы лістапад.

***

Няма і дня, каб сэрца не шчымела,
Махну рукой – прыйшла згрызот пара.
І невядома, што ў смузе знямелай
За адрыўным лістком календара?

Мінае дзень, і пахне добрай лазняй,
Але даўно я да згрызот прывык.
Чым ноч бліжэй, дык чуецца выразней
Савіны рогат і змяіны сык.

Прашу саву: жудою не адорвай!
Сарву лісток – ляці, пакутнік мой!
І там, дзе ён вісеў, чарнее прорва,
І ў прорве кішма змей перад зімой.

***

Ужо мяцеліц белакрылых
Дыханне чуецца здалёк.
І яблыня на дол астылы
Апошні скінула лісток.

Прыходзіць дзень, пусты, азяблы,
І – ціш, і смутак, і слата.
Але глядзіш: на гольцы яблык
Дрыжыць адзін, як сірата.

***

Дзень схіляецца паволі
І казыча ноздры дым.
Дзе касцёр? – бо ў чыстым полі
Замярзаю я зусім.

Ці то снежная завея?
Ці то яблынь белы цвет?
Неба ранай барвавее.
Ноч кладзецца неўпрыкмет.

Не абгоніш морак сіні,
Хоць спяшы ці не спяшы.
Крэпнуць рукі ў золкай стыні
І – мярзоцце на душы.

Пуста, вусцішна і гола.
Зор іскрыстая кастра.
І няма нідзе наўкола
Дымавейнага кастра.

***

Не трэба ў восені сырой
Кідаць зямныя справы.
Пасецца блізка за гарой
Табун мяцеліц жвавы.

Па снезе мокрым, па слаце,
Ці сыты, ці галодны,
Куды мяне ні пашляце,
Вярнуся ў кут зыходны.

Далёка бачыцца з гары
Пейзаж, імглой працяты:
І бор задуманы стары,
І збедненыя хаты.

Няхай не ўзрымсціцца бядзе
Часінаю ліхою.
Няхай адчай мой прападзе
За шэраю гарою.

Яшчэ сцякуць з парваных струн
Акорды позняй нівы,
Пакуль у далечах табун
Праскача белагрывы.

***

Гады ўцякаюць ад мяне,
Знікаюць за смугою,
Хоць трошкі ёсць яшчэ на дне
Жыццёвага напою.

З павіннай да цябе, Тварэц,
Ісці па першапутку,
Бо ў мой бяроставы карэц
Сцякаюць кроплі смутку.

Апошні лісцік ападзе,
І моцна спяць дубровы.
Касец, і жнец, і на дудзе
Ігрок я выпадковы.

Гадоў, што зніклі, не відаць,
І шлях да іх няпросты.
Самому ж мне і дапіваць
Сваю жальбу з бярosты.

***

На скразняках яшчэ іскрыць крыху
Душы маёй патухлае цяпельца.
І дом стары, зялёны ад імху,
Ужо не прычакае навасельца.

У сценах тых я многа меў надзей,
І ля цяпельца грэўся падарожны,
А сёння ціха там, і ўсё радзей
Хвалюе свет, як быў, такі ж трывожны.

Гудуць вятры, няма канца імжы,
Замёрзла цела на слаце асенняй.
Вунь зноўку дом, ды гэты дом чужы,
І не відаць у хмарах прасвятлення.

Хачу цяпла, хоць золь не разганю,
Пакуль куродыміць ахапак голля.
Няўжо не ўзвіцца беламу агню
З астылага пад попелам вуголля?

***

Слязяцца наперадзе дні
Няяснай журбы, і, дарэчы,

З людзьмі, хто жыве ў цішыні,
Усіх там чакаюць сустрэчы.

Шумела вясна да нябёс,
Гайдаліся лета арэлі,
І зоркі трывожна, як лёс,
Не дужа каб зырка гарэлі.

Сягоння ўжо восень між ніў
Залее, імжыць, барвавее,
І сцежкі жыцця, дзе хадзіў,
Засцеле кілімам завея.

Учэпісты летні загар
Трымаецца доўга надзіва.
Гляджу, як станчэў каляндар,
І толькі ўздыхаю маўкліва.

***

Восень зайграла на флейце ўсё роўна.
Пчолы ляцяць па нектар верасны.
Лес, нібы замак, што ў казцы чароўнай,
Тайну закляцця схаваў да вясны.

Долы прыціхлі, і хтось чарнатвары
Кліча і вабіць мяне праз імгу.
Лес анямелы, ды зняць тыя чары,
Стомлены духам, і я не змагу.

Вёрсты ў маркоце, і дзесьці далей там
Лес нерухомы прапаў у слаце.

Потым замоўкла чароўная флейта –
Здані скуголяць на кожнай вярсце.

***

Няма і дыму, і няма агню,
Але яшчэ цяпельца не астыла.
Сагрэць сябе, якога прэч ганю,
Зашкодзіць дождж, што сеецца паныла.

Няма святла – тады прыходзіць страх.
Няма цяпла – шалее дождж на даху.
Гарэць і здані могуць на кастрах,
Але ад іх – ні попелу, ні праху.

Адкуль той дым, які агонь, калі
Само жыццё малюецца ўяўленнем.
Пагрэць бы рукі – тухнуць вугалі,
І крыўдна штось на холадзе асеннім.

***

І няма мне спакою,
І хвалюе мяне
Дзень, пражыты не мною,
Ці ў зіме, ці ў вясне.

Дзень за днём – і завея
Вытча белую ніць,
І слязінка на веях
Ад жальбы затрымціць.

Дык навошта шукаю
Я ад шчасця ключы?
З апраметнай і раю
На зямлю не ўцячы.

Ён са мною навекі –
Дзень, пражыты не мной.
Толькі ж дзе тыя лекі?
Толькі ж дзе той спакой?

***

Зацвітае падснежнікаў процьма –
Гэта слаба мяцеліца дзьме.
Не хадзіць па бярэзніку ўпоцьмах:
Будзе месяц падсвечваць зіме.

Я не знаю, чаму свету сумна?
Мо таму, што і сам у гадах.
Быў жа час, як зайцы каля гумнаў
Жыраваць прыбягалі ў садах.

Месяц той, што падсвечваў блазноце.
Ні зайцоў і ні гумнаў нідзе.
Дзесьці там, на далёкім балоце,
Вые доўга ваўчыца ў жудзе.

Ты не вый мне з набегаў разбойных –
Лепей флейта ці покліч сурмы
Між пялёсткаў падснежнікаў мройных
І бутонаў сапраўднай зімы.

***

Помняць людзі і такія зімы –
Птушкі замярзалі на ляту.
Бог марозу – Зюзя нелюдзімы –
Носа не паказвае ў слату.

Слаба рунь перад зямным згаленнем
Зелянее ў прыкрай чарнаце.
І адна тут рада і маленне –
Хай завея горыч замяце.

Будзе, пэўна, плач душы пачуты –
Зашумяць шумёлы на дварэ:
Гэта жэніцца, нарэшце, люты,
Пані Сцюжу ў жонкі ён бярэ.

Вось і снег. Не гнюсіць абліваха.
Зюзя ўмомант закаваў раку.
І зіма вясёлая, бы сваха,
Нацянькі брыдзе па цаліку.

## ГІЛІ

Вясёла-шустрыя гілі,
Альбо іначай – снегіры,
Сабе на грудкі пралілі
Чырвоны анілін зары.

Мароз і вецер ледзяны,
І я, замучаны зусім,

Гляджу на двор, а там яны –
Абарыгены снежных зім.

Чародка порсткая сюд-туд
Мітусіцца ў сляпым акне.
Сярод снягоў пунсовы цуд
Бадзёрыць, зімняга, мяне.

Здзяўбуць рабін іскрысты жар
І паляцяць гілі далей.
Тут сонца глянула з-за хмар,
І стала скрозь яшчэ святлей.

Кароткі дзень, і ў бляску зор
Крапчаў мароз, вятры гулі,
Ды ранкам зноў ляцяць у двор
Чырванагрудыя гілі.

***

Пагуляць ёсць дзе завеям
На палетках за сялом.
Пасядзім і пагавеем
Ціхамірна ды радком.

Багародзіца з бажніцы
Не асудзіць сёння нас:
На калядныя грамніцы
Успамінам самы час.

Мы ж зямлю аралі дбала
І прайшлі ўсю басанож.

На стале і хлеб, і сала,
Ды і чарка да таго ж.

Нахіліўшыся над місай,
Разлівае дзед віно,
І завея белай пысай
Мякка торкае ў акно.

***

Няхай там сягоння другія
Жывуць паміж лютых завей,
Па вёсцы былой настальгія
У даўнюю памяць заве.

Туды ні дайсці, ні даехаць:
Снягі і ў снягах з-за ляска
Паблісквае месяц, бы вехаць,
Як смаляць дзядзькі япрука.

Там віскат, і смех, і калядны
Шчадроўна-вясёлы падман.
Там коні ў палях неаглядных
У белы прапалі буран.

З той казкі са снежнаю феяй
Вярнуцца і я не паспеў.
Выплаквай, начная завея,
Маркоту зімы нараспеў!

***

Не пакідаў я там нічога:
Ні зла, ні шчасця, ні жуды,
І толькі санная дарога
Вядзе праз далечы туды.

Ляціць вазок мой цераз гурбы.
Мільгнецца зрэдку белы дах.
Мароз пячэ, і між віхур бы
Не начаваць тут у снягах!

Бярозкі з добрым інтарэсам
Бягуць па цаліку наўскос,
І вёрсты снежныя ўсё лесам,
Але яшчэ не да нябёс.

Там, у юнацтве, з неспакоем
Душа трапеча, як снягір.
Там нешта ёсць цяпер такое,
Што кружыць дум бурлівы вір.

Спынiся, конь! Ландшафты мігам
На нейкай зменяцца мяжы:
Крутыя гурбы з'есць адліга
І з дахаў пырснуць капяжы.

***

З парусіны снежна-стылай
Полаг лесу – як будан.

Дый відаць: зіма адкрыла
Свой вандроўны балаган.

Расхінаецца заслона –
Прадстаўленне завірух!
Дуб пад белаю каронай
І ў бяроз на вецці пух.

Ці падушку распаролі?
Ці буран здурнеў зусім?
Дзед Мароз у першай ролі
І Снягурка побач з ім.

Уздыхну, глядач адзіны,
Выйду з казкі, у якой
Ірэальныя карціны
Затуманены слязой.

***

Калісьці і я быў вясёлы –
Цяпер успаміны адны.
І трубяць з нябёсаў анёлы,
І скача ўжо конь вараны.

Грывасты, імклівы, мой кося,
Цябе я згадаў і – бывай!
Не думай: і мне давялося
Паклажу цягнуць цераз край.

Вядома ж, не з долі харошай
Прапіты апошні талан.

Сляды замятае парошай,
Ці зрокавы, можа, падман?

Мой кося, без ценю каварства,
Калі абяцаў, дык гатоў
Аддаць я і сёння паўцарства
За прывідны звон капытоў.

***

У сумётах лазовая кудра
І заснежаны поле і гай.
У прыроды ўсё проста і мудра,
Дык сябе не віні, не карай.

Хоць было і балюча, і горка,
Ды і сёння – не ласкавей,
Паглядзі: у нізінах, на горках
Чарнату засцілае падвей.

Снег ідзе – малады, лапцяваты,
Снег ідзе, і трывожна да слёз:
Хай і клуні, і свірны, і хаты
Не астудзіць пякучы мароз.

Між балотамі, на крутаяры
Азірніся вакол і сябе
Не віні за нязбытыя мары,
Не карай, што жывеш у журбе.

Ты ж, буран, не ламай сухастою
І жалобны матыў не заводзь.
Тым, хто моліцца з торбай пустою,
Дасць і дзень, дасць і хлеба Гасподзь.

**Віктар Гардзей** нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Завочна скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у калгасе, быў карэспандэнтам Ляхавіцкай раённай газеты. У 1966 годзе пераведзены на працу ў Ганцавічы — загадчык аддзела пісем, адказны сакратар, намеснік рэдактара газеты "Савецкае Палессе". З пераездам у Мінск працаваў у часопісах "Беларусь", "Родная прырода", цяпер — рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць".

Першыя літаратурныя творы надрукаваў у 1963 годзе будучы яшчэ школьнікам. Выдаў зборнікі паэзіі "Касавіца", "Верасное палясоўе", "Засевак Радзімы", "Незабудкі азёр", "Узрушэнне", "Дзікая пчала", "Зялёныя дажджы" і кніжкі вершаў для дзяцей "Чырвоны грабеньчык", "На арэхавай палянцы", "Коцікі на вярбе", "Мой тата — трактарыст", "Зай, які лічыў варон", "Зайкава балалайка".

Аўтар кніг прозы "Дом з блакітнымі аканіцамі", "Карані вечнага дрэва", "Уратуй ад нячыстага", рамана "Бедна басота". За апошні час у "Полымі" і "Маладосці" надрукаваў для дзяцей і юнацтва трылогію "Аселіца ў басейне Чорнага мора". На беларускую мову пераклаў раман Г.Флабэра "Саламбо" і кнігу казак народаў Еўропы "Хрустальны калодзеж", якія пабачылі свет у папулярных серыях "Школьная бібліятэка" і "Бібліятэка замежнай дзіцячай літаратуры". Для выдавецтва "Юнацтва", акрамя таго, пераклаў раман Р.Стывенсана "Чорная страла", шэраг твораў з кнігі "Казкі братоў Грым", а таксама паасобныя казкі Х.Андэрсана, Ш.Перо і іншых.

За кнігу прозы "Уратуй ад нячыстага"" прысуджана Літаратурная прэмія імя Івана Мележа.

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Віктар Канстанцінавіч Гардзей

**Межань**

*Кніга лірыкі*

Рэдактар *М.Антаноўскі*
Карэктар *С.Кардаш*
Кампутарны набор і вёрстка *Л.Ваўчок*
Адказны за выпуск *Г.Вінярскі*

Падпісана да друку 2.06.99 г. Фармат 70x90 1/32
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ум.друк.арк. 5,27.
Наклад 500 паасобнікаў. Заказ № 923.

**МФ "Беларускі кнігазбор".**
**Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.97 г.**
**220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.**

*Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка*
*ў друкарні ДП "Мінсктыппраект"*
*220123, г.Мінск, вул.В.Харужай, 13/61*
*ЛП №162 ад 6.01.98 г.*